14 траўня 2021 | № 18 (726)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

За сталом з тыранамі
стар. 8



# Доўгі шлях да лепшай долі

Аксана КОЛБ

**Кажуць, кожны народ варты свайго правіцеля. І гэта пацвярджаецца беларускім прыкладам.**

Нам не хочацца гэта прызнаваць, хочацца зрабіць кагосьці іншым вінаватым, але праўда ў тым, што адказнасць за наша сёння ляжыць на нас усіх. На тых, хто маўчаў і не высоўваўся, хто будаваў сваё жыццё, не зважаючы на беззаконне, на тых, хто спрабаваў нешта змяніць, але ў пэўны момант таксама змірыўся ці прыстасаваўся.

Дваццаць шэсць гадоў таму мы зрабілі наша сёння, сваімі рукамі, галасамі, маўчаннем, абыякавасцю, нежаданнем бачыць відавочнае. Мы адмовіліся тады ад нацыянальных сімвалаў, каб сёння за іх паміраць ці ісці на нары. Пагадзіліся на ганьбаванне нашай мовы, каб сёння па кавалачках яе адраджаць і вучыць нашых дзяцей простым словам. Мы самі далі Лукашэнку магчымасць зруйнаваць падзел улады. І самі ж палезлі ў пятлю «брацкіх абдымкаў». Здарылася гэта 14 траўня 1995 года, калі адбыўся першы рэферэндум, які пазбавіў нас нацыянальных дзяржаўных сімвалаў, роднай мовы і права вырашаць свой лёс.

Памятаеце, як гэта было? Праект пастановы аб правядзенні рэферэндуму парламентары пачалі разглядаць 11 красавіка 1995 года. Парламенцкая фракцыя БНФ абвясціла галадоўку. Неўзабаве да чальцоў дэпутацкай групы далучыліся некаторыя сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ). Усяго колькасць галадоўнікаў дасягнула 19 чалавек, якія размясціліся ў Авальнай Зале.

У ноч з 11 на 12 красавіка спецназ у масках уварваўся ў залу пасяджэнняў парламента, збіў дэпутатаў і выкінуў усіх з будынка. Фармальна, спецаперацыю апраўдалі тым, што паступіў ананімны званок аб тым, што нібыта ў парламенцкім памяшканні знаходзіцца ці то бомба, ці то міна. Лукашэнка і яго прыхільнікі даводзілі, што «ніхто нікога не біў», а самі галадоўнікі-дэпутаты нібыта «пагражалі кровапраліццем, дасталі нажы, пагражалі адрэзаць сабе галовы». Нягледзячы на патрабаванне збітых дэпутатаў прадэманстраваць відэа з запісам, а таксама прад'явіць яго следчым, гэтага зроблена не было.

13 красавіка дэпутаты вярнуліся да разгляду пытанняў. Гэта быў апошні дзень працы гэтага парламента. Разгарнуліся вострыя дыскусіі. Але ў выніку за правядзенне рэферэндуму 14 траўня 1995 года прагаласавалі 177 дэпутатаў са 185 тых, хто галасаваў.

Каманда Лукашэнкі праяўляла вынаходлівасць, мабілізавала на агітацыю некаторых вядомых дзеячаў культуры і мастацтва (акцёр Уладзімір Гасцюхін, мастак Міхаіл Савіцкі і інш.). Адначасова імкнулася дыскрэдытаваць БНФ у вачах беларусаў. Напярэдадні рэферэндуму была паказана стужка Юрыя Азаронка «Дзеці хлусні». У фільме БНФ асацыяваўся з калабарантамі падчас акупацыі Беларусі нацыстамі.

Па афіцыйных даных Цэнтральнай выбарчай камісіі, з 4 млн 823 тыс 482 чалавекі, якія прынялі ўдзел у рэферэндуме, за наданне рускай мове такога ж статусу як беларускай, прагаласавалі 4 млн 017 тыс 213 (або 83,3%), ад нацыянальных сімвалаў адмовіліся — 3 млн 622 тыс 851 (75,1%), пагадзіліся на далейшую інтэграцыю з Расіяй — 4 млн 020 тыс 001 (83,3%), а на магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў парламента — 3 млн 749 тыс 266 (77,7%). І хаця агульная колькасць выбаршчыкаў тады была 7 млн 445 тыс 820 чалавек, і супраць сімвалаў не прагаласавала нават палова, гэта не перашкодзіла яшчэ да абвяшчэння Цэнтрвыбаркамам афіцыйных вынікаў, спусціць наш бел-чырвона-белы сцяг з будынка Адміністрацыі прэзідэнта. 16 траўня асабіста Іван Ціцянкоў парваў яго на кавалкі. Лукашэнка і яго асяроддзе не хавалі свайго задавальнення. Яны заявілі, што нацыяналістычныя сілы пасля паразы на рэферэндуме не маюць ніякага права на ўладу ў краіне.

Узгадалі? Пасля былі новыя рэферэндумы, галасы на якіх ужо і не лічылі. Новыя наступы на свабоду і незалежнасць. Але пачалося ўсё тады. І тое, што мы маем сёння, — расплата за невідушчае ўчора. Сотні палітзняволеных, тысячы закратаваных, забарона на думкі, словы, на ўсё жывое — наша плата за заплюшчаныя вочы і заткнутыя вушы. Бо нічога ў гэтым жыцці не бывае дарма, і не бывае пакарання ні за што.

Ці разумеем мы гэта? Ці ўсведамляем, што годнае жыццё, лепшую долю трэба заслужыць. За яе трэба змагацца, трэба песціць і гадаваць як малое дзіця. Што наша заўтра, заўтра нашых нашчадкаў мы ствараем сёння. Кожны дзень, кожным нашым учынкам. Кожным словам ці маўчаннем. Кожнай дзеяй ці бяздзеяннем. Бо шлях да лепшай долі — доўгі, пакручасты і часам нясцерпны. Ён вымагае моцы духу і шчодрасці сэрца. І не бывае без ахвяр. Але мы павінны яго прайсці, каб не проста выжыць, а адрадзіцца.

Ці заплюшчым вочы зноў?

# Новыя рэпрэсіі і надзея на правасуддзе

**Чарговы тыдзень прамінуў, чым ён запомніцца? Узгадаем у нашым дайджэсце.**

З'явіўся спіс экс-сілавікоў, якіх Лукашэнка пазбавіў воінскіх і спецыяльных званняў. Адпаведны ўказ ён падпісаў 4 траўня. У абгрунтаванні гэтага рашэння гаварылася, што падчас абвастрэння грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі асобныя вайскоўцы і сілавікі «нагняталі пратэсныя настроі ў грамадстве, арганізоўвалі і ўдзельнічалі ў несанкцыянаваных мерапрыемствах, размяшчалі ў сетцы інтэрнэт экстрэмісцкія матэрыялы», здзяйснялі шэраг іншых правін. Такімі дзеяннямі, на думку ўлады, яны дыскрэдытавалі «гонар і годнасць вайскоўца і супрацоўніка». У спісе больш за 80 прозвішчаў. Гэта вайскоўцы, супрацоўнікі міліцыі і прадстаўнікі іншых сілавых ведамстваў. Сярод іх ёсць тыя, хто заявіў пра сваю нязгоду з дзеяннямі ўладаў пасля выбараў, але ёсць і паслядоўныя крытыкі рэжыму.

Хірурга Андрэя Любецкага арыштавалі на два месяцы. Яго затрымалі 4 траўня, паводле якой справы — адміністрацыйнай ці крымінальнай — дагэтуль не вядома, бо адвакат пад падпіскай аб неразгалошванні.

6 траўня ў Камісіі правоў чалавека Кангрэсу ЗША адбыліся слуханні, прысвечаныя дэмакратыі і правам чалавека ў Беларусі. На слуханнях прапанавалі санкцыі супраць сябровў Лукашэнкі на Блізкім Усходзе, а таксама даць ясныя сігналы Расіі пра непрымальнасць захопу Беларусі вайсковымі ці эканамічнымі сродкамі.

Нямецкія адвакаты звярнуліся ў Федэральную пракуратуру Германіі, заявіўшы аб здзяйсненні Аляксандрам Лукашэнкам злачынстваў супраць чалавечнасці. Зварот быў зроблены ад імя 10 беларусаў. Раней заявы ад пацярпелых былі пададзеныя ў праваахоўныя органы Чэхіі, Літвы і Польшчы. Так, у Літве падалі дакументы 17 чалавек і рыхтуюцца да падачы яшчэ 20 заяў. У Чэхіі і Польшчы падрыхтаваны да падачы больш за 10 заяў. У Польшчы пракуратура таксама праводзіць расследаванне па фактах жорсткага абыходжання з затрыманымі ў Мінску 10 жніўня трыма грамадзянамі гэтай краіны.

Палата прадстаўнікоў прыняла ў другім чытанні законапраект «Аб змяненні кодэксаў у пытаннях крымінальнай адказнасці». З пераліку новых «злачынстваў», які апублікаваны на сайце Палаты прадстаўнікоў, бачна, што многія з іх тычацца выказвання меркаванняў і арганізацыі акцый пратэсту.

Вынеслі прысуды ў справе тэлеграм-канала «Армія з народам». Актывісту «Народнай грамады» Сяргею Спарышу прысудзілі 6 гадоў узмоцненага рэжыму. Антаніне Канавалавай і яе мужу Сяргею Ярашэвічу — па 5 з паловай гадоў зняволення. Антаніна будзе адбываць тэрмін у калоніі агульнага рэжыму, Сяргей — узмоцненага. Сяргею Коршуну і Яўгену Прывалаву — па 4 з паловай гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У Брэсце вынеслі прысуды трэцяй групе людзей (гэта 14 асобаў) у «карагоднай» справе. Алене Гнаўк, Марыі Скакавец, Васілю Чарнецкаму — 2 гады хатняй «хіміі»; Данілу Чамаданаву — 1 год калоніі агульнага рэжыму; Сяргею Наліўку, Кірылу Луду, Уладзіславу Навіцкаму, Радзівону Кандрацюку, Віктару Лабко — 2 гады «хіміі»; Алене і Вікторыі Лысковіч (маці і дачка) — 1,5 года «хіміі»; Юрыю Чубырку, Валянціне Жукоўскай і Людміле Луцкай — 1,5 года хатняй «хіміі».

Шэсць праваабарончых арганізацый Беларусі прызналі палітычным зняволеным Аляксандра Кардзюкова, сябра забітага 11 жніўня сілавікамі ў Брэсце Генадзя Шутава.

«Беларускі дом друку» адмовіўся друкаваць газету Intex-press. Электронны ліст прыйшоў на электронную пошту рэдакцыі ў другой палове дня 9 траўня (святочны і нерабочы дзень). Друкарня апавясціла рэдакцыю Intex-press, што з 9 траўня «ў аднабаковым парадку» скасоўвае дамову на аказанне сваіх паслуг. Прычыны такога кроку кіраўніцтва друкарні не ўказала. За інтэрв'ю са Святланай Ціханоўскай Intex-press трапіла пад жорсткі прэсінг з боку ўладаў. Нядаўна ад продажу газеты адмовіліся практычна ўсе буйныя гандлёвыя сеткі Баранавічаў, у дачыненні да Выдавецкага дома «Інтэкс-прэс» і яго ўладальніка Уладзіміра Янукевіча за інтэрв'ю з Ціханоўскай былі складзеныя два адміністрацыйныя пратаколы, прызначаныя велізарныя штрафы і распачатая праверка па магчымым крымінальным пераследзе.

Лукашэнка падпісаў Дэкрэт № 2 «Аб абароне суверэнітэту і канстытуцыйнага ладу». Дакумент прадугледжвае, што ў выпадку гібелі кіраўніка дзяржавы з прычыны замаху, здзяйснення акту тэрарызму, знешняй агрэсіі, іншых гвалтоўных дзеянняў усе дзяржаўныя органы і іх службовыя асобы дзейнічаюць у адпаведнасці з рашэннямі Савета Бяспекі, на пасяджэннях якога старшынюе прэм'ер-міністр. Пры гэтым на тэрыторыі краіны неадкладна ўводзіцца надзвычайнае або ваеннае становішча. Рашэнні Савета Бяспекі абавязковыя для ўсіх і падлягаюць безумоўнаму выкананню.

З ІЧУ ў Буда-Кашалёве 9 траўня выйшла палітзняволеная Анастасія Перавошчыкава. Яе сем разоў каралі арыштам па 15 сутак — нібыта за ўдзел у «партызанскіх» акцыях. Дзяўчына правяла ў зняволенні 105 сутак.

Раніцай 11 траўня загарэўся касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Будславе, у якім знаходзіцца адна з найважнейшых святынь Беларусі — Будслаўскі абраз Маці Божай, адзін з найбольш шанаваных абразоў. На месца прыехалі пажарныя разлікі, прыхаджане дапамаглі ратаваць убранне касцёла, у тым ліку галоўную святыню — абраз, які своечасова атрымалася вынесці. З цягам часу касцёл удалося патушыць. Галоўнае наступства пажару — дах згарэў і абваліўся.

# Лекары, прадаўцы, трактарысты. У Беларусі не хапае амаль 84 тысяч работнікаў

**У Беларусі не хапае 83,8 тысячы работнікаў, вынікае са звестак агульнарэспубліканскага банка вакансій. Да прыкладу, на 24 сакавіка было крыху каля 76 тысяч прапаноў ад наймальнікаў. FINANCE.TUT.BY паглядзеў, якіх работнікаў больш за ўсё не хапае і якія заробкі ім абяцаюць наймальнікі.**

### Якія заробкі абяцаюць наймальнікі

У агульнарэспубліканскім банку вакансій цяпер значыцца 83 793 прапаноў ад наймальнікаў. З іх — 31,3 тысячы вакансій — на заробак да 500 рублёў. Пры гэтым трэба ўлічваць, што наймальнікі, як правіла, у вакансіі паказваюць заробак да выплаты падаткаў, гэта значыць на рукі выйдзе менш.

Заробак ад 1000 рублёў абяцаюць амаль па 10,7 тысячы вакансіях.

### Якіх спецыялістаў не хапае

Для кіроўцаў аўтамабіляў у банку вакансій цяпер значыцца 3537 прапаноў ад наймальнікаў (з якіх 770 — з заробкам да 500 рублёў), трактарыстаў — 2454, электраманцёраў — 2058, прадаўцоў — 2035, кухараў — 1520, электрагазазваршчыкаў — 762, дарожных рабочых — 394.

Хапае вакансій таксама і для будаўнікоў. Да прыкладу, для муляроў — 854 прапаноў ад наймальнікаў, тынкоўшчыкаў — 795, маляроў — 643.

У дэфіцыце таксама медработнікі. Так, у краіне не хапае 3005 урачоў-спецыялістаў, амаль столькі ж медсясцёр (3001), фельчараў — 1036. Для санітарак адкрыта 1664 вакансій (у тым ліку і ветэрынарных).

Да прыкладу, лекарам гатовыя плаціць больш за 1000 рублёў па 756 вакансіях, медсёстрам — па 196. Заробкі да 500 рублёў могуць атрымаць 602 урачы і 1219 медсясцёр.

У Мінпрацы раней распавялі аб самых запатрабаваных прафесіях на рынку працы. Сярод іх — медсёстры, лекары, прадаўцы, швачкі, вадзіцелі. Пры гэтым больш за 60% заяўленых вакансій прызначаны для рабочых.

Фактычнае беспрацоўе ў першым квартале, паводле Белстата, было на ўзроўні 4,2% ад колькасці працоўнай сілы. У колькасным выражэнні беспрацоўнымі былі 207,9 тысячы чалавек. Гэтыя даныя разлічаныя па метадалогіі Міжнароднай арганізацыі працы.

Пры гэтым афіцыйнае беспрацоўе прыкметна ніжэйшае, чым фактычнае. Паводле Мінпрацы, на 1 красавіка на ўліку ў якасці беспрацоўных стаяла 8,6 тысячы чалавек. Гэта значыць, фактычна беспрацоўных у 20 разоў больш, чым афіцыйных.

### Якія пытанні ўзнікаюць да банка вакансій

Да актуальнасці інфармацыі, якая размешчана ў агульнарэспубліканскім банку вакансій, узнікае нямала пытанняў. У ім хапае прапаноў ад наймальнікаў, якія размясцілі ў папярэднія гады, пачынаючы з 2016-га. Гэтыя прапановы маглі страціць актуальнасць (хоць і былі масава абноўленыя 16 кастрычніка мінулага года).

У сакавіку гэтага года падчас анлайн-канферэнцыі, якую праводзіла Мінпрацы па пытаннях садзейнічання занятасці, адзін з удзельнікаў паскардзіўся, што не ўсе прапановы, размешчаныя ў агульнарэспубліканскім банку вакансій, актуальныя. «Тэлефаную, а мне кажуць, што месца занятае. І гэта не адзінкавы выпадак», — распавёў удзельнік канферэнцыі.

— Так, такое здараецца. І тлумачэнні гэтаму простыя: канкурэнцыя на рынку працы існуе, асабліва калі ўзровень аплаты працы па заяўленай вакансіі высокі. Цалкам магчыма, што вакансія, якая зацікавіла вас, паралельна зацікавіла яшчэ кагосьці, — адказаў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Мінпрацы Алег Такун. — Сёння банк вакансій абнаўляецца ў рэжыме анлайн, і мы імкнемся да таго, каб інфармацыя па неактуальных вакансіях як мага хутчэй выключалася з банка.

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

**Усё часцей нам паведамляюць, што перапіска з вязнямі ледзь не спыняецца. Нягледзячы на тое, што лісты за краты пішуць штодня сотні чалавек, прарываюцца туды адзінкі. Сёння свае лісты родным пішуць дзядуля з бабуляй байкера Мікіты Траццякевіча і жонка актывіста руху «Дзея» Кіма Самусенкі.**



### «Хутчэй сабрацца ўсім разам»

«Дарагі, Мік!

Атрымалі твой ліст №4. Гэта вельмі добра, што ў цябе такі бадзёры настрой. Думаю, што ён дапаможа табе лягчэй пераносіць усе цяжкасці таго становішча, у якім ты аказаўся. Не губляй яго і ў далейшым.

Як бы нам хацелася, каб усё гэта скончылася найхутчэй, каб мы мелі магчымасць сабрацца ўсе разам і адзначыць першую гадавіну народзінаў нашай дражэнькай Васілісы. Але гэта, на жаль, толькі летуценні, бо мы пакуль што знаходзімся ў трох розных месцах, а каб усім нам сабрацца ў адным — гэтаму павінна паспрыяць вельмі шмат фактараў. Тым не менш мы не губляем надзеі на тое, каб гэта адбылося як мага хутчэй. Ты вызначыў для сябе дату вызвалення 10.08 (Дзень тваіх народзінаў).

Дарагі Мік! Мы рэгулярна атрымліваем усе звесткі пра тваю дачушку. На апошнім відэа яна выглядае такой жвавай, хутка рухаецца сваім спосабам па ўсёй кватэры, пра нешта хоча сказаць. Цудоўнае відэа. Мы кожны дзень з такім замілаваннем яго праглядаем.

У нас пакуль усё добра, калі так можна сказаць. Здароўе, як кажуць, па ўзросце. А ўзрост, як сам ведаеш, ужо даволі сталы, мякка кажучы. Актыўна рыхтуемся да дачнага сезону. Пасадачны матэрыял ужо перарастае, і ён расце так хутка, бо з кожнай раслінкай бабуля размаўляе як з немаўляткам (так яна размаўляе з Васілісай, калі праглядае фота і відэа). А цяпла як не было, так няма. Гэта вялікая перашкода, але нічога не зробіш.

Дарагі Мік! Мы цябе вельмі любім, перажываем за цябе, спачуваем табе. Калі жыццё працякае спакойна (ламінарна), то многія пачуцці прытупляюцца, і толькі ў бядзе, у горы тыя ж пачуцці праяўляюцца больш выпукла і рэльефна.

Вельмі хочацца пажадаць табе добрага здароўя, настрою, каб табе, як мага лягчэй перанесці ўсе цяжкасці твайго складанага становішча, і каб усіх нас не пакідала вялікае жаданне на хуткую сустрэчу.

Да пабачэння, наш дражэнькі prisonnier,

Бабуля, Дзядуля».

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

### «Беражы сябе, родны!»

«Коханий Кім!

Я тебе дуже-дуже кохаю і дуже сумую! У нас усё добра, не хварэем, настрой аптымістычны! Мы з дачкой Ладай чакаем цябе. Нас падтрымлівае шмат добрых людзей ва Украіне, Беларусі і ў іншых краінах! Не перастану паўтараць дзякуй вялікі ім за гэта.

Беражы сябе, родны! Мы разам, нягледзячы на часовыя перашкоды.

А калі гэта маленькае пасланне ў газеце ты не атрымаеш, то няхай як мага больш людзей ведае, што я ганаруся табой, падтрымліваю і веру, што ёсць вышэйшая справядлівасць! Усё абавязкова будзе так, як трэба.

Абдымаем і цалуем, жонка Леся і дачка Лада :)»

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Трэба больш трэшу!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы, канешне, шмат чаго бачылі за апошнія месяцы. Але тое, як улады арганізавалі 9 траўня, усё роўна ўражвае. Я не магу ўцяміць, ці тое чыноўнікі з глузду з'ехалі, ці яны свядома правакуюць народ на розныя асацыяцыі.**



Фота Аляксандра Зяньковіча

Напрыклад, у Докшыцкім раёне 5 траўня на афіцыйным мерапрыемстве, прысвечаным Дню Перамогі, інсцэніравалі, як немцы гоняць вяскоўцаў у хлеў, каб іх спаліць жыўцом. Сцэнку паказалі прама каля мемарыяльнага комплексу «Шунеўка», які пасля вайны ўсталявалі ў памяць аб трагедыі ў 1943 годзе. Гэтыя сцэнкі дэманстравалі, як высветліў TUT.BY, і раней, але толькі сёлета яны разышліся па інтэрнэце.

Цікава, што гэтыя інсцэніроўкі адбываліся на фоне чырвона-зялёных афіцыйных сцягоў. Вы ўяўляеце, канешне, якія асацыяцыі ўзніклі ва ўсіх пасля жніўня мінулага года. Сапраўды, уражанне, што недзе мы гэта бачылі: і зусім не ў вайну.

Бабруйск таксама вылучыўся, зрабіўшы перформанс-рэканструкцыю на месцы Бабруйскай крэпасці, дзе ў часы вайны быў лагер для ваеннапалонных. Мала таго, што «акцёрам» давялося «зігаваць», дык яшчэ на ўсеагульны агляд вывесілі сцягі са свастыкай.

На фоне вядомага выслоўя «можам паўтарыць» у інтэрнэтах задаюцца пытаннем: што гэта было? Канешне, вайна мела розныя аблічы, і трагедыі таксама былі, але ж адзначаецца Дзень Перамогі!

Нармальныя беларусы збольшага такія «святочныя» мерапрыемствы ігнаравалі. Гэта ўжо звыклая тактыка байкоту афіцыйных урачыстасцяў. Таму давялося збіраць масоўку рознымі спосабамі. Асабліва адзначыліся ў Лідзе, дзе ўдзельнікам уладнага мерапрыемства па спісе выдавалі па 30 рублёў проста на лаўцы ля Кургана бессмяротнасці. Лідскія ўлады імгненна адхрысціліся: маўляў, хто гэтыя жанчыны, што раздавалі грошы, і што яны там робяць, незразумела, і яны не маюць дачынення да арганізацыі свята. Ага, канешне, не маюць. А спісы ўдзельнікаў мітынгу яны, відаць, узялі з паветра…

Затое грамадства ў чарговы раз перамагло сваёй салідарнасцю. Напярэдадні святаў шырока разышлася інфармацыя, што сёлета аднаразовай выплаты ветэранам да Дня Перамогі не прадугледжана. На салют грошы ёсць, на канцэрт — ёсць, на шарыкі, якія запускалі ў паветра, — ёсць, а на ветэранаў — няма. Сацсеткі і тэлеграм-каналы імгненна адрэагавалі: «Калі ва ўлады няма грошай на ветэранаў — давайце збяром іх усе разам!»

Такой істэрыкі ад уладаў на гэтую прапанову не было бачна даўно. Нават Лукашэнка быў вымушаны заявіць, што ветэранам выплачваюцца грошы ці не штотыдзень, а «народных грошай» тыя нават не возьмуць. І 7 траўня ўсе паштовыя аддзяленні і банкі былі пераведзеныя на аўральны рэжым працы — каб выплаціць ветэранам дапамогу. Выплаты склалі ад 2500 рублёў Героям Савецкага Саюза (іх у Беларусі засталося ўсяго двое) да 700 рублёў былым вязням фашысцкіх лагераў.

Менавіта грамадства змусіла ўлады аддаць ветэранам належнае.

А тыя грошы, якія збіралі ў якасці дапамогі, таксама не прапалі. На іх актывісты і ўдзельнікі дваровых чатаў закупілі прадукты і пайшлі па ветэранах з віншаваннямі. Вельмі прыгожа атрымалася. А ў ноч з 8 на 9 траўня прынамсі Мінск расквітнеў неафіцыйнымі салютамі — так, як гэта было на Дзень Волі.

Такім чынам, казаць пра тое, што «пратэст садзьмуўся» проста не выпадае. Так, ён сцішыўся. А як яму не сцішыцца, калі цяпер на «суткі» можна трапіць за шкарпэткі няправільнага колеру? Але ж «сцішыўся» — не азначае «спыніўся». І грамадства сваёй салідарнасцю ў чарговы раз паказала — яно можа ўздзейнічаць на ўлады. Нават пры «сцішаным» пратэсце.

А ў нас наперадзе яшчэ выбары ў мясцовыя Саветы.

Улады ж звыкла змагаюцца з «экстрэмізмам». 5 траўня сілавікі прыйшлі на гомельскае прадпрыемства «Віпра». Яны абвінавацілі работнікаў у тым, што тыя знаходзяцца ў экстрэмісцкіх чатах у Тэлеграм, і адабралі ва ўсіх тэлефоны для праверкі. Пяць работнікаў затрымалі, але потым адпусцілі: цяпер яны на волі і чакаюць позвы ў суд. Астатнія 52 работніка чакаюць вынікаў праверкі і падазраюцца ў тым жа.

Падавалася б, звычайная ў Беларусі справа, калі б не адно «але». Прадпрыемства «Віпра» — гэта прадпрыемства для людзей з інваліднасцю 3 групы па слыху. Там працуюць 57 чалавек, і ўсіх — усіх працоўных да аднаго! — падазраюць у распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў.

Не дзіўна, што, чуючы такія навіны, Еўропа не адмаўляецца ад ідэі ўвесці ў дзеянне чацвёрты пакет санкцый да ўладаў. Звязаныя яны будуць з ціскам на польскую меншасць. «Рэжым у Беларусі працягвае рэпрэсіі і запалохванне сваіх грамадзян, сёння польская абшчына стала мішэнню яго акцый. Мы разглядаем наступны пакет санкцый, які, я спадзяюся, будзе прыняты на працягу некалькіх тыдняў», — сказаў вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па міжнародных справах Жазэп Барэль па выніках пасяджэння кіраўнікоў МЗС краін Еўрасаюза ў Брусэлі. А прадстаўнік Святланы Ціханоўскай Франак Вячорка анансаваў нават пяты пакет санкцый ЕС.

Але горш за санкцыі — праца літоўскіх і польскіх мытнікаў. Тыдня не праходзіць, каб яны не білі рэкорды па выяўленні партый кантрабандных цыгарэт, што едуць з Беларусі. 5 траўня палякі выявілі аж дзве такія буйныя партыі — на 2,5 мільёна долараў і на рэкордныя амаль на 10 мільёнаў! Апошняя партыя — самая буйная кантрабанда цыгарэт у гісторыі. Яна была знойдзеная ў чыгуначных кантэйнерах у цягніку, дзе павінны былі перавозіць вермікуліт. Агулам памежнікі канфіскавалі 2 500 000 пачкаў цыгарэт на суму 37 мільёнаў злотых (9 мільёнаў 729 тысяч долараў).

Зразумела, што такія кантрабандныя партыі немагчыма сфарміраваць без удзелу чыноўнікаў. І добрая праца суседскіх ахоўнікаў мяжы — гэта даволі моцны (прычым, імгненны) удар па тых, хто мае дачыненне да гэтай кантрабанды.

Дарэчы, тэлеграм-канал, які нельга называць, ужо анансаваў новы фільм-расследаванне па гэтай кантрабанднай схеме. Запасаемся папкорнам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**У Магілёве пачаўся працэс над палітыкам, якога абвінавачваюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Нягледзячы на тое, што затрыманы ён быў 7 чэрвеня на легальным перадвыбарчым пікеце.**

Напярэдадні Севярынец знайшоў магчымасць звярнуцца да беларусаў, даслаўшы адмысловы ліст сваёй жонцы Вользе: «Тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, — справа Божая. Ад пачатку і да канца. Бог абудзіў Беларусь не для таго, каб яна зноў заснула. Бог не робіць бяссэнсіцы», — адзначае ён і задаецца пытаннем, чаму Бог дапускае, каб беларусы дагэтуль заставаліся ў стане болю і роспачы.

«Прычыны адчаю і слушныя адказы — амаль заўсёды ў нас саміх. Відаць, нягледзячы на леташні прарыў, мы як народ яшчэ не да канца зрабілі працу ўнутры сябе… Толькі народ, які ўсведамляе сябе адзінствам, здольны прыняць найважнейшыя рашэнні адносна свайго лёсу. Узяць на сябе адказнасць за краіну. Зацвердзіць справядлівыя законы. Абараніць незалежнасць», — піша ён.

«Народам нельга стаць у нейкі момант. Народам трэба быць. Абараняць праўду, свабоду, справядлівасць — гэта ж як дыхаць. Таму ў Беларусі і доўгія роды. Бо волю трэба выпакутаваць, каб цаніць яе. Што, даецца лёгка, — лёгка і губляецца. А цяпер балюча? Значыць, жывыя. Нясцерпна? Значыць, глыбока ідзе пералом. Крыж? Значыць, неўзабаве ўваскрасенне».

Разам з Севярынцам судзяць іншых палітвязняў — актывістаў грамадскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Яўгена Афнагеля, Паўла Юхневіча, Дзмітрыя Казлова, Максіма Вінярскага, Андрэя Война, а таксама Ірыну Шчасную. Судовы працэс будзе закрытым нават для родных абвінавачаных.



## Максім Знак

**Адвакат Максіма Знака Дзмітрый Лаеўскі паведаміў, што папярэдняе расследаванне справы завершана і хутка над Знакам можа пачацца суд.**

Па словах Лаеўскага, у абвінавачванні адсутнічае якая-небудзь канкрэтыка, яно складаецца з абстрактных фармулёвак, з якіх не ясна, якія дзеянні Знака следчыя расцанілі як злачынства. Пры гэтым Знак знаходзіцца пад вартай восем месяцаў.

Нагадаем, першая справа супраць Каардынацыйнай рады па ч. 3 арт. 361 (заклікі да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу) была распачата ў канцы жніўня. У снежні Генпракуратура ўзбудзіла яшчэ дзве новыя крымінальныя справы ў дачыненні да чальцоў Каардынацыйнай рады — па стварэнні экстрэмісцкага фарміравання і кіраўніцтве ім, фінансаванні яго дзейнасці і змовы з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам. 10 лютага Знаку прад'явілі абвінавачанні і па гэтых артыкулах.

Раней абаронцы Знака ўжо заяўлялі, што фактычна Знак падвергнуты крымінальнаму пераследу ў сувязі з выказваннем ім прафесійнага меркавання па прававых пытаннях і рэалізацыяй фундаментальных правоў.

## Сяргей Верашчагін

**Гамяльчук, які адбывае пакаранне ў калоніі №13 у Глыбокім, трапіў у адчайную сітуацыю.**



Верашчагіна затрымалі 12 жніўня і жорстка збілі. Да суда хлопец знаходзіўся ў СІЗА, пасля вынясення прысуду ў лістападзе 2020 года быў этапаваны ў Глыбокае. Сярод пастаўленых яму дыягназаў: закрытая ЧМТ, удар галаўнога мозгу, пералом паяснічнага аддзела пазваночніка, удар суставаў каленяў, локцяў і скроневых абласцей.

У хлопца пастаянна кружыцца галава, цямнее ў вачах, нямее ўся левая частка цела. Яму складана размаўляць і рухацца. Ён слепне, але ў калоніі яго прымушаюць працаваць — нягледзячы на такія праблемы са здароўем.

У сувязі з гэтым актывісты распачалі кампанію — і просяць неабыякавых людзей накіроўваць звароты і лісты ў Міністэрства аховы здароўя (на электронны адрас citizens@belcmt.by), Дэпартамент выканання пакаранняў МУС РБ (220039 г. Мінск, вул. Брылеўская 14А), адміністрацыю калоніі (211791, Віцебская вобл. г. Глыбокае, вул. Савецкая, 205) з патрабаваннем прадставіць хлопцу медыцынскую дапамогу.

# Дэкрэт №2: «паперка» ці сігнал для пачатку змовы?

Сяргей ПУЛЬША

**Персанальна мне незразумела, чаму ўсе так узрушыліся з-за падпісанага Лукашэнкам дэкрэта №2. Ці мала ён падпісваў такіх «лёсаносных» дакументаў? І што з таго?**

Давайце ўзгадаем з ранейшых падобных паперак вось проста тое, што прыходзіць на памяць. Напрыклад, дэкрэт пра дрэваапрацоўку, па якім нават працоўным было забаронена звальняцца з мадэрнізаваных прадпрыемстваў. Таксама было багата енку. І што ў выніку? Мадэрнізаваныя прадпрыемствы аказаліся ў глыбокай даўгавой яміне, а забарона звальняцца прывяла да маштабнага скарачэння тых самых працоўных. Тэлеграм-канал «Эканоміка па-беларуску» прыводзіць проста шакавальныя лічбы. Напрыклад, з 2010 па 2019 гады колькасць працоўных на Мінскдрэве скарацілася з 718 да 163 чалавек, на Барысаўдрэве — з 1146 да 728, на «Беларускіх шпалерах» — з 2788 да 994, на ФанДАК — з 2232 да 1256, на Гомельдрэве — з 3296 да 2361. І гэтак — па ўсёй «мадэрнізацыі».

Самы нашумелы дэкрэт — гэта, канешне, аб дармаедах. Нагадаем, ён быў падпісаны ўжо больш за 6 гадоў таму: 2 красавіка 2015 года. Дагэтуль чыноўнікі ламаюць галаву, як увесці яго ў дзеянне і прымусіць працаваць — хаця б намінальна, «для птушкі». Але нават «для птушкі» — не атрымліваецца.

Адзіны дакумент, які больш-менш спрацаваў, — гэта дэкрэт аб лічбавых тэхналогіях, які даў ільготы Парку высокіх тэхналогій. Але і тое — не да канца. Па-першае, гэты дэкрэт няшмат чаго прынёс краіне па-за межамі гэтага ПВТ, па-другое — усе льготы і прынцыпы «англійскага права», што прадастаўляліся айцішнікам гэтым дакументам, былі скасаваныя фразай: «Іншым часам не да законаў».

А разам з дэкрэтам пра ПВТ Лукашэнка падпісваў і дэкрэт пра лібералізацыю прадпрымальніцкай дзейнасці. Думаю, не трэба казаць, што ён не спрацаваў зусім.

Паўстае лагічнае пытанне: калі дэкрэты не працуюць пры жывым Лукашэнку, ці будуць яны працаваць пры Лукашэнку мёртвым? Пытанне лагічнае, але рытарычнае, ці не праўда?

### А дзе Канстытуцыя?

Дэкрэт, дэ-юрэ, з'яўляецца падзаконным актам. А па Канстытуцыі ў выпадку нягдольнасці прэзідэнта выконваць свае абавязкі (а смерць — гэта тая ж нягдольнасць) улада пераходзіць да прэм'ер-міністра.

У дэкрэце, канешне, прапісана, што менавіта прэм'ер узначальвае Раду Бяспекі. Аднак усё роўна «калектыўнае кіраўніцтва» краінай неяк не суадносіцца з Асноўным законам краіны. А ў выпадку страчанай легітымнасці, калі ўсе рашэнні Лукашэнкі — і гэты дэкрэт у тым ліку — могуць быць пастаўленыя пад сумнеў з пункту гледжання законнасці, вялікае пытанне, што спрацуе: дэкрэт альбо Канстытуцыя.

Гэта ў 2019 годзе так званыя «дэпутаты» проста па шчаўчку датэрмінова знялі з сябе паўнамоцтвы, даўшы старт абранню новага складу парламента. Але ў выпадку гібелі Лукашэнкі

**Падобнае палітычнае завяшчанне — гэта не толькі сігнал грамадству. Гэта яшчэ і «сігнал для сваіх» — знак таго, што «Акела састарэў, стаў слабейшым». Ён задумаўся пра сыход — а значыць, трэба планаваць, як жыць, без яго**

шчаўчка не прагучыць. І прэм'ер (сам з вайскоўцаў, дарэчы) можа вырашыць кіравацца Канстытуцыяй, а не нейкім нелегітымным і сумнеўным з пункту гледжання законнасці дакументам. У такім выпадку замест «абароны канстытуцыйнага ладу» (што заяўлена ў назве дэкрэту) мы можам атрымаць у краіне поўны раздрай ды грызню за ўладу. Асабліва небяспечна, што гэтая грызня будзе адбывацца сярод людзей, якія маюць у сваім распараджэнні ўзброеныя сілы і падраздзяленні. Верагоднасць «маленькай грамадзянскай вайны» сярод сілавых структур Сіняўкай, пагадзіцеся, не нулявая.

### Ненадзвычайнае становішча

Найбольш цікавы момант, канешне, што ў выпадку «гібелі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у выніку замаху на яго жыццё, здзяйснення акта тэрарызму, знешняй агрэсіі, з прычыны іншых дзеянняў гвалтоўнага характару» Рада Бяспекі «неадкладна» ўводзіць «ва ўстаноўленым парадку» на тэрыторыі краіны надзвычайнае або ваеннае становішча.

А што, у выпадку знешняй агрэсіі без гібелі прэзідэнта надзвычайнае або ваеннае становішча не ўводзіцца? Ці нам прадпісана сустракаць захопнікаў хлебам-соллю? І, па-трэцяе, а чым наша сённяшняе становішча адрозніваецца ад надзвычайнага? Поўны прававы дэфолт, сведкі ў балаклавах, асуджэнне людзей за «пікетаванне шкарпэткамі» ці аблокамі, катаванні ў месцах зняволення (што недапушчальна нават у час вайны), забойства сілавікамі мірных дэманстрантаў і выкарыстанне арміі супраць народа (што даказана ўжо ў судзе)... Чаго нам не хапае для «надзвычайнага ці ваеннага становішча»: танкаў на вуліцах ды каменданцкай гадзіны?

Канцэнтрацыйныя лагеры для іншадумцаў ужо былі, гета ў той жа «Новай Баравой» ужо створана... Хіба што гэта яшчэ не аформленае дакументам «надзвычайнае становішча». А дэкрэт — ён толькі прапісвае на паперы стварэнне таго, што ўжо, збольшага, існуе, і існуе не адзін месяц. Гэта як нашы «народныя абраннікі», прымаючы рэпрэсіўныя законы, падводзяць «бачнасць законнасці» пад фактычна існуючую сітуацыю.

### Memento mori

У гэтым дакуменце праглядаецца вельмі цікавая роля беларускай прапаганды, якая, у сутнасці сваёй,ператварылася, як слушна заўважалі, у «сектанцкі» інструмент. Спачатку ўлады ствараюць «змову інтэлігентаў», нібыта скіраваную на знішчэнне Лукашэнкі. Потым усяляк раскручваюць гэты сюжэт па ўсіх сваіх прапагандысцкіх каналах. А потым кіраўнік і сам пачынае верыць у тое, што да яго «ухмыляясь, приближаются с ножами».

Насамрэч, калі да яго нехта і набліжаецца «з нажом», то гэта зусім не Фядута з Кастусёвым. І тут вельмі цікавы і паказальны факт, што беларускі пратэст, які ўзнік і працягваецца дагэтуль, нягледзячы на ўвесь гвалт і бязмежжа з боку сілавікоў, насіў і носіць абсалютна мірны і негвалтоўны характар. Бо, у адрозненне ад нашых «судоў», маральна нельга прызнаць гвалтам сарваную з міліцыянта маску альбо пару драпінаў на скуры.

Гэта ўлада выстаўляе як «гвалт», выносіць адпаведныя прысуды, і — зноў жа — у чарговы раз запалохвае сама сябе і пакуль што кіраўніка дзяржавы ў прыватнасці. Эскалацыя гвалту ў дачыненні да грамадзян краіны ператварылася ў эскалацыю страху для ўлады. Плюс — узздзеянне сваёй жа прапаганды, і ўлада пачынае баяцца ўласнага ценю.



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Моцная ўлада, пагадзіцеся, так сябе не паводзіць.

Таму і з'явіліся думкі, напрыклад, у палітолага Валерыя Карбалевіча, што дэкрэт, падпісаны Лукашэнкам, — гэта яго палітычны тэстамент, завяшчанне. «Дэкрэт № 2 — гэта наканаванасць, адчуванне асуджанасці лёсу, адсутнасці перспектывы... Падпісваючы згаданы дэкрэт, Лукашэнка ставіць на парадак дня грамадскіх абмеркаванняў пытанне пра тое, што будзе пасля Лукашэнкі, міжволі правакуючы штучны крызіс яго легітымнасці. У падсвядомасць беларускага грамадства закладваецца думка, што, аказваецца, і без Лукашэнкі Беларусь можа жыць», — напісаў ён у сваім блогу на «Радыё Свабода».

Сапраўды, гэта чарговы сігнал, што кіраўнік Беларусі думае пра свой сыход. Прычым, гэтыя думкі даволі не радасныя. На яго меркаванне, гэты сыход абавязкова скончыцца яго смерцю — і неабавязкова палітычнай.

Але падобнае палітычнае завяшчанне — гэта не толькі сігнал грамадству. Гэта яшчэ і «сігнал для сваіх» — і сігнал не вельмі аптымістычны. Для іх гэта — знак таго, што «Акела састарэў, стаў слабейшым». Наш Акела задумаўся пра сыход — а значыць, трэба планаваць, як жыць, у выпадку чаго, без яго. І думаць пра гэта будуць не толькі сілавікі, але і чыноўнікі ўсіх рангаў і ўзроўняў. Што не дадасць «правадыру» ані каліва лаяльнасці.

Ну і, канешне, сакральна была абраная дата падпісання гэтага дэкрэту. Напэўна, Лукашэнка думаў, што прыняцце такога рашэння ў Дзень Перамогі будзе сведчыць пра яго моц і ўпэўненасць у той самай перамозе. Аднак, як звычайна, усё атрымалася нягегла.

І па інтэрнэтах ужо ходзіць заўвага: мы ўсе ведаем, які дакумент быў падпісаны ў Берліне ў ноч з 8 на 9 траўня 1945 года.

### Хто ў выйгрышы?

Адзіна, для каго карысны гэты дакумент, — для тых самых сілавікоў, што засядаюць у Радзе Бяспекі. Менавіта яны зразумелі цяпер, як усё прыкладна будзе працаваць у выпадку, калі нехта з іх груповак адважыцца на дзяржаўны пераварот. Менавіта яны, зыходзячы з гэтага дакумента, могуць планаваць свае дзеянні: з кім дамаўляцца, як атрымаць вырашальную большасць у двух трацінах ў Радзе Бяспекі, каго варта арыштаваць, а каго, можа быць, «пусціць у расход».

Дэкрэт, падпісаны Лукашэнкам, вельмі небяспечны для яго самога — бо ён паказвае няўпэўненасць кіраўніка ва ўласнай будучыні і адкрывае дарогу хаця б для разважанняў пра да магчымую «змову». І да гэтай змовы Фядута з Кастусёвым дачынення ўжо не маюць.

Здраджваюць заўсёды свае, праўда?

# Былы амбасадар: Мой сэнс свабоды — быць у Беларусі і дзейнічаць адкрыта

**Ігар Ляшчэня да нядаўняга часу быў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Славаччыне (раней — у Егіпце, Ізраілі). Дыпламатычны стаж — 30 гадоў. Стаў першым беларускім паслом, хто 15 жніўня публічна заявіў пра салідарнасць з мірнымі пратэстоўцамі. І потым вярнуўся ў Беларусь.**



Фота Радыё Свабода

Сёння Ігар Ляшчэня — старшыня грамадзянскай ініцыятывы «Сход» — лічбавай дыялогавай платформы народных прадстаўнікоў, якая мае на мэце, сярод іншага, садзейнічаць вырашэнню палітычнага крызісу ў краіне праз дыялог. Прапануем інтэрв'ю, якое ён даў «Радыё Свабодзе», з некаторымі скарачэннямі.

***— Што вымусіла вас адкрыта выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю?***

— Яшчэ 10 жніўня я не ведаў, што зраблю сваю заяву. На маім выбарчым участку ў амбасадзе Славаччыны было сумленнае галасаванне, і я сумленна паведаміў у Мінск, што Лукашэнка атрымаў 12% галасоў, а Ціханоўская — 78%. Я знаходзіўся ў гармоніі з сабой, лічыў, што гэтага дастаткова. Але далейшыя падзеі не пакінулі выбару. Самы галоўны трыгер — відэа з разгонам і збіццём людзей. Я эмацыйны чалавек, але пасол не можа паддавацца эмоцыям. Таму я правяраў факты: спачатку праз афіцыйныя тлумачэнні — непераканаўча, потым праз знаёмых. І выразна ўбачыў, што на пратэсты выйшлі не прафесійныя рэвалюцыянеры, не наркаманы, прастытуткі і беспрацоўныя, а прыстойныя людзі розных узростаў і палітычных поглядаў.

Чаму так мала паслоў паступілі гэтак жа? Думаю, як ні цынічна гучыць, дзеля звычайнага пачуцця самазахавання. Калегі ўсё разумеюць і прыдумалі шмат самаапраўдалак: ад макіявеліянскіх трактовак нацонт дыпламатычнага доўгу да элементарнага «на што жыць?».

Дыпламаты ў цэлым — паднявольныя людзі. Ёсць меркаванне, што сутнасць працы амбасадара — сваім мастацтвам прымусіць другі бок бачыць плюсы пазіцыі краіны, якую ён прадстаўляе, і не заўважаць мінусы. Я за гады працы вывеў сваю формулу дыпламатыі: добры амбасадар у адносінах паміж краінамі павінен знайсці вобласці ўзаемнага цікавасці, разумення і выгады і, абапіраючыся на гэты пункт, пашыраць супрацоўніцтва там, дзе яно здавалася немагчымым.

Ёсць і глыбейшыя прычыны. Сітуацыя «вярхі не могуць, нізы не хочуць» да жніўня была сфармаванай далёка не цалкам. Той жа рабочы «БелАЗа» выйшаў на пратэст, бо накіпела: яго абразіла сітуацыя з ковідам, вынікамі выбараў, АМАП збіў яго сябра, які вяртаўся з начной змены. Гэта ўсё накіпела і выплюхнулася.

А потым пратэст пачалі душыць. І гэты рабочы сеў дома, выпіў гарбаты і зразумеў, што ўсё астатняе яго больш-менш задавальняе. Так, узровень жыцця падае, але не вельмі. І так думалі не толькі працоўныя, але і бізнесоўцы, і чыноўнікі.

Таму я не стамляюся паўтараць: лозунгу «сыходзь!» недастаткова, на ім мы доўга не праедзем. У гэтым вакууме (калі сітуацыя непрымальная, але куды ісці, толкам не сказалі) прачынаецца досвед сярэдняга разважлівага беларуса, па продках якога так часта і бязлітасна з захаду на ўсход і назад пракатвалася кола гісторыі.

Так, на думку тых жа славакаў ці чэхаў, такая хваля пратэсту, здавалася б, павінна была прывесці да перамогі. Але ў нашай сітуацыі гэтага было недастаткова. Не было напрамку руху. І, як мне здаецца, лідары пратэсту блыталі лабавую прасталінейную публічную агітацыю з працай з мэтавымі аўдыторыямі.

Менавіта таму ў кастрычніку, калі ў вусны Святланы Ціханоўскай уклалі заклік да агульнанацыянальнага страйку і нашы палітэмігранты прасілі мяне заклікаць дыпламатаў сыходзіць з МЗС, я адмовіўся, бо мне няма чаго было ім прапанаваць. У Вільні і Варшаве адмовіліся заклікаць чыноўнікаў звальняцца толькі сёлета, пры прыняцці сваіх новых стратэгій.

Што да вышэйшага кіраўніцтва МЗС, то пытанне журналістаў пра тое, «чаму Макей не грукнуў дзвярыма і не сышоў», вельмі наіўнае. Шукаць дэмакратаў на верхніх паверхах уладнай эліты бессэнсоўна — іх там няма. Там цікавасць да дэмакратыі выяўляецца толькі ў прыемнасці спажываць выгоды, створаныя дэмакратычным Захадам.

## «Страціў ранг, але захаваў добрае імя»

***— Што вы страцілі за сваю актыўнасць?***

— У паняццях цяперашняй улады і абывацеляў, напэўна, я страціў шмат — сучаснасць і ясную будучыню. Я сышоў з сістэмы. Мяне пазбавілі рангу. Каб утрымаць цяперашніх паслоў, быў нават прыняты ўказ кіраўніка дзяржавы пазбаўляць такіх, як я, былых дыпламатаў спецыяльнай дапамогі пры выхадзе на пенсію. Улада настолькі аптымістычная, што лічыць, быццам праз 12 гадоў, калі падыдзе мой пенсійны тэрмін, яны ўсё яшчэ будуць сядзець на сваіх месцах і нацешацца відовішчам, як я буду атрымліваць сваё пенсійнае пасведчанне.

Для сям'і наступстваў не было. Калі не лічыць, што жонка ўсё яшчэ не можа ўладкавацца на працу.

***— Што вы здабылі праз актыўнасць?***

— Па-першае, я здабыў, а дакладней, умацаваў сваё добрае імя. Адважуся сказаць, што ў мяне і дагэтуль быў годны імідж. Далей гісторыя ўсіх рассудзіць. Я таксама заслужыў павагу людзей, якія мяне дагэтуль не ведалі. З'явілася шмат знаёмых, мяне пазнаюць, і я адчуваю сімпатыю людзей. Па-другое — і гэта самае галоўнае — я ў камфорце сам з сабой.

На дадзены момант я ўладкаваўся на працу, і ў 53 гады асвойваю абсалютна новы від дзейнасці. Прапанову зрабіў зусім незнаёмы чалавек. І гэта ўчынак, на мой погляд.

**Пытанне, «чаму Макей не грукнуў дзвярыма і не сышоў», вельмі наіўнае. Шукаць дэмакратаў на верхніх паверхах улады бессэнсоўна. Там цікавасць да дэмакратыі выяўляецца толькі ў прыемнасці спажываць выгоды, створаныя Захадам**

***— Ці было гэта таго варта?***

— Сёння я разумею, што ў маім рашэнні была заканамернасць. Пасля таго, што адбылося, я не змог бы працаваць у гэтай сістэме. Перафразую Уінстана Чэрчыля: калі б паміж ганьбай і адстаўкай я абраў бы толькі ганьбу, то ў выніку атрымаў бы і ганьбу, і адстаўку. Так што ў дадзеным выпадку маё рашэнне было непазбежнае.

## «За мной ніхто ніколі не стаяў»

***— Што фарміравала вашу ўнутраную свабоду? Назавіце тры галоўныя фактары.***

— Мяне такім сфарміравала ўсё маё жыццё. У свой час з малога беларускага горада Жодзіна я паступіў у МДІМА (Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін), хоць тады гэтай установы не было ў даведніках. Мы з бацькам ішлі па Маскве і пыталі кожнага сустрэчнага, дзе гэта «МДІМА». Праз галоўны ўваход нас не пусцілі, і тады мы вырашылі, што «возьмем будынак у аблогу», пачалі абыходзіць гэты велічэзны комплекс — і ў выніку нас пусцілі праз уваход рэжымнай вайсковай кафедры. Я быў адзіным на курсе, каго ўзялі ў саюзнае МЗС без маскоўскай прапіскі.

Па падзеях майго жыцця з 17 да 27 гадоў — ад паступлення да прыходу ў беларускае МЗС — можна стварыць трылер. Я ведаю, што адчувае чалавек, калі ў не самы спакойны перыяд развіцця блізкаўсходняй дзяржавы ноччу ў ягоны жывот упіраецца ствол аўтамата. Тады я быў студэнтам. У 1991 годзе я быў гатовы ехаць на пераддыпломную практыку ў амбасаду СССР у Ірак, дзе пачыналася аперацыя «Бура ў пустыні». Я разумеў, што не траплю ў МЗС СССР, калі ўвесь перыяд практыкі буду, нікому не патрэбны, швэндацца па цэнтральным апараце. У выніку мяне накіравалі ў Емен.

Мая кар'ера развівалася насуперак абставінам. Часта даводзілася ісці супраць плыні. У мяне была свая думка. Менавіта ў гэтых умовах ставіў рэкорды: быў самым маладым начальнікам упраўлення, самым маладым паслом, самым маладым памочнікам Лукашэнкі.

У рамантычны перыяд гісторыі беларускага МЗС было толькі 4 выпадкі «one man show», калі аднаго чалавека закідалі за мяжу, і ён быў там чалавек-амбасада. Пасля такога вопыту тры чалавекі сышлі з МЗС, а я выжыў — і стаў самым маладым амбасадарам. Мяне тады з жонкай, двума малымі дзецьмі і пудзелем закінулі ў Каір: маўляў, хуценька дапамажы аднавіць сяброўства новага беларускага парламенту ў Міжпарламенцкай Асамблеі (і дапамог-такі), а заадно і амбасаду адкрыеш. Роўна праз суткі па факсе з гатэля я ўжо слаў першую ад рукі напісаную справаздачу аб праведзеных сустрэчах.

Усё маё жыццё — форс-мажорныя сітуацыі, у якіх трэба было спадзявацца толькі на сябе. Я ніколі не быў «чыімсьці», хоць часам і хацелася. За мной ніхто, акрамя жонкі, дзяцей, катоў і сабак, ніколі не стаяў.

У мяне заўсёды была павага да сябе і да іншых людзей.

Напэўна, на мой светапогляд паўплывалі бацькі. Яны ў мяне верылі, ва ўсім дапамагалі. Мама — адна з нямногіх у Беларусі лаўрэат прэміі Савета Міністраў СССР у галіне навукі. Бацька каля 30 гадоў быў дырэктарам школы ў Жодзіне, стварыў там музей, які атрымаў статус народнага.

***— Пра што б вы цяпер папярэдзілі самога сябе?***

— Каб мяне не пакідалі мудрасць, разважлівасць, вера ў сябе. І каб я ўмеў абстрагавацца ад прыватных меркаванняў. Я досыць позна стаў публічным чалавекам, таму спачатку блізка да сэрца прымаў выпады ў сецыве за свае першыя публікацыі з аналізам сітуацыі ў Беларусі. Постфактум лішні раз пераконваюся, што вельмі ў многіх ацэнках меў рацыю.

## «Буду адкрыта працаваць на перамены»

***— Ці баіцеся вы сёння?***

— Не. Рэальна страшна было, калі я рабіў заяву. Страшна было вяртацца. Я тады зрабіў хітры ход — і ў інтэрв'ю СМІ заявіў на ўсю краіну, што не здзіўлюся, калі на мяжы даведаюся, што я дасведчаны кантрабандыст або вязу некалькі мільёнаў долараў для беларускай апазіцыі. Як кажуць у анекдотах, таварыш маёр пачуў, і мяжу я перасек бясшумна. Нервы скончыліся, калі я ў поўнай адпаведнасці з лістом МЗС прыйшоў у міністэрства звальняцца, і перапалоханая ахова пачала званіць па ўсе тэлефоны. Гэта было непрыемна.

Сёння мая сіла і мая слабасць — у тым, што я ў Беларусі. Гэта мой прынцып — быць тут. А тут мае сэнс быць, калі ты бачны і чутны, адкрыты і транспарэнтны. Таму, напрыклад, я пагадзіўся ўдзельнічаць у ініцыятыве «Сход», хоць да канца не разумеў, што гэта такое. Некаторыя нават казалі, што гэта задума КДБ, каб узяць на ўлік усіх нязгодных.

Мне імпануе ідэя дыялогавай пляцоўкі, дзе мы можам абменьвацца думкамі аб праблемах і прапаноўваць рашэнні. Для мяне «Сход» — гэта акенца для легальнай дзейнасці. Гэта інструмент, які дазваляе грамадскай актыўнасці не засохнуць, не змерзнуць у цяперашніх суровых умовах. Ідэальна было б, каб сярод дэлегатаў былі прадстаўнікі ўсіх сіл, той жа «Белай Русі», мы б мелі магчымасць дыскутаваць. Для многіх удзельнікаў гэта важная і карысная грамадска-палітычная школа.

Сваю місію сёння я бачу ў тым, каб падтрымліваць грамадскую актыўнасць, нават у тых прававых рамках, якія сталі ўсё больш умоўнымі. Гэта не трыгер для пераменаў, але неабходная ўмова для іх. На гэта была накіравана і яшчэ не спісана ў архіў мая ідэя шырокага грамадскага руху «Я — грамадзянін».

Я не ведаю, ці застануцца магчымасці для такой дзейнасці, калі ўступяць у сілу законы, якія парламент абмяркоўвае ў красавіку. Але пакуль яны ёсць, пакуль усё не закрылася, я буду дзейнічаць.

# Яго дома чакаюць, яму ёсць куды

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Івана Багдзевіча затрымалі 19 кастрычніка каля дома ў вёсцы Рыбцы Пухавіцкага раёна. АМАП скруціў яго на вачах у жонкі і маленькіх дзяцей. 12 траўня Івану спаўняецца 27 гадоў, і ўжо амаль 7 месяцаў мужчына знаходзіцца за кратамі. «Новы Час» паразмаўляў з роднымі палітвязня і даведаўся, як яны жывуць гэты час без сына, мужа, брата і бацькі.**



## Нікуды не хадзіў — а справу завялі

— Я была з сярэднім сынам у гародзе, збіралі маліны. Муж са старэйшай дачкой рамантаваў машыну за гародам. Мы размаўляем, і тут праязджае машына. Іван кажа: «"Апера" паехалі, я іх у твар ведаю». І праз пару хвілін прыязджае сіні бусік, не паспявае спыніцца, з яго выбягае АМАП з аўтаматамі. Мужа ставяць на калені ледзь не ў лужыну перад дзецьмі, надзяваюць кайданкі і ўвозяць, — узгадвае дзень затрымання жонка Івана Багдзевіча Аляксандра.

Івана забралі а палове на першую дня, не сказаўшы, куды. Дарэмна маці з братамі абтэлефаноўвалі РУУСы — ніхто не даваў ніякай інфармацыі. Толькі а сёмай вечара ўдалося даведацца, што ён на Акрэсціна.

Праз трое сутак Івана не адпусцілі, а родным сказалі, што яго арыштавалі яшчэ на 10 сутак. Толькі ад сукамерніка з Акрэсціна, які патэлефанаваў маці Івана Таццяне, удалося даведацца, што Багдзевіча пераводзяць у СІЗА на Валадарскага. Пазней стала вядома, што крымінальную справу завялі за падзеі ў Мінску 9–12 жніўня. Але ў гэтыя дні Іван нікуды не хадзіў.

— Мы нават на выбары не ездзілі. З 8 на 9 мы былі на начной рыбалцы з дзецьмі. А ўвечары знік інтэрнэт, у мяне адной ён быў. Мы нікуды не выходзілі, сядзелі і чыталі, — гаворыць Аляксандра.

Спачатку Івана абвінавачвалі па артыкуле 293 КК (удзел у масавых беспарадках), цяпер абвінавачанне перакваліфікавалі на арт. 342 (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх). Але, паводле родных, упершыню Іван выйшаў на мітынг 14 жніўня, таму ён ніяк не мог удзельнічаць у падзеях 9–12 жніўня.

Блізкія дасюль не могуць знайсці адказу, чаму затрымалі Івана. Як і тысячы беларусаў, ён хадзіў на мірныя мітынгі ў Мінску, але ніякіх супрацьпраўдных дзеянняў не здзяйсняў. Для Івана, гаворыць маці, заўжды на першым месцы была сям'я, ён стараўся падняць на ногі дзяцей, уласнымі рукамі зрабіў прыбудову да хаты.

— Ён не п'яніца, не «раздзяўбай», ён — працавік. Захапляўся рыбалкай, машынамі — з заплюшчанымі вачыма любую разбярэ і збярэ, — распавядае Таццяна.

Перабіраючы ў думках усе магчымыя прычыны затрымання сына, жанчына можа знайсці толькі адну, дый тая, мякка кажучы, не цягне на крымінальнае злачынства: яшчэ падчас збору подпісаў за Святлану Ціханоўскую на адным з пікетаў Іван сфатаграфаваўся з Сяргеем Ціханоўскім і выклаў здымак у інтэрнэт.

## «Дзе мой тата?»

Пакуль траім дзецям Івана Багдзевіча гавораць, што тата ў бальніцы, яму робяць уколы, ён паправіцца і вернецца да іх. Старэйшыя, 4-гадовая Даша і 3-гадовы Сцёпа, кожны дзень запытваюцца, дзе тата. Руслан, якому год і 5 месяцаў, пакуль яшчэ не разумее, што тата знік. За час, пакуль Іван за кратамі, Руслан навучыўся хадзіць, а Сцёпа — гаварыць.

— Першы час Сцёпа быў вельмі «зашуганы»: ён бачыў, як тату забралі, і баяўся, што і мяне так могуць забраць, — гаворыць Аляксандра.

— Даша і цяпер, калі мы размаўляем, раптоўна пачынае плакаць. Я запытваюся, што здарылася, а яна пытаецца: «Дзе мой тата?» — дадае Таццяна.

Бадай, гэта самае цяжкае — што дзеці растуць без бацькі. А яшчэ сёлета сям'я ўпершыню правяла зіму без Івана — і гэта таксама было выпрабаванне не з лёгкіх: дом недабудаваны,

# Лявон Халатран: Я ўнутрана

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Мінскі гарадскі суд 30 красавіка чакана пакінуў у сіле прысуд палітвязню Лявону Халатрану, а гэта значыць, што ў любы момант яго могуць забраць адбываць пакаранне — два гады абмежавання волі ва ўстанове адкрытага тыпу, так званую «хімію». Мы пагутарылі з Лявонам пра тое, як ён рыхтуецца да гэтага, што даў яму досвед у СІЗА і якой бачыць будучыню Беларусі.**



## «Сыну кажам, што тата хутка з'едзе»

Лявон знаходзіцца на ўмоўнай «волі» з 19 лютага. Увесь гэты час — больш за два месяцы — Лявон жыў звычайным жыццём, бавіў час з сям'ёй, гутарыў з журналістамі. Аднак чым бліжэй было да дня разгляду апеляцыі, тым больш змрочна рабілася на душы. Цяпер Лявон жыве ў падвешаным стане: ён не ведае, у які момант яго забяруць на «хімію» і куды накіруюць яе адбываць.

Лявон гаворыць, што хутка забыўся пра турму, цяпер гэта ўспрымаецца як нешта вельмі далёкае. Пра будучае пакаранне ён стараецца не думаць, хаця гэта складана, бо кожную раніцу даводзіцца прачынацца з думкай пра тое, ці праўдзе ён сённяшні дзень з роднымі. Але ён стараецца трымацца роўна і спакойна.

— Па-першае, я ведаю, што многія атрымалі яшчэ большыя тэрміны ў больш жорсткіх умовах. Па-другое, я ўключаю свайго даследчыка і думаю, наколькі гэта будзе цікава — сустрэцца з рознымі слаямі грамадства і новым досведам. А па-трэцяе, я хачу паказаць, што гэта не страшна. Вы хочаце парушаць закон — добра, мы падпарадкуемся, але потым вы за гэта адкажаце. Я паеду і прайду праз гэта — людзі і большае праходзілі.

У той жа час Лявон гаворыць, што адчувае сябе ўнутрана свабодным чалавекам. Ахвяраваць сваёй свабодай ці проста аддаць яе — гэта таксама свабода выбару, кажа Халатран.

Сям'я Лявона падтрымлівае, але самае складанае — падрыхтаваць да будучага расстання маленькага сына Мікі.

— Ён яшчэ не разумее, хаця мы яму кажам, што тата хутка з'едзе. Але я спадзяюся, што ў мяне атрымаецца з ім хаця б зрэдку бачыцца, — гаворыць суразмоўца.

## «Калі пратэсты былі масавыя, яны ішлі на кантакт»

Бацькі Лявона Халатрана — медыкі, але яны вельмі хутка зразумелі, што медыцынскую дынастыю ні Лявон, ні яго брат працягваць не збіраюцца. Таму хлопец з дзяцінства рабіў тое, што яго цікавіла. Да 2013 года ён шчыльна займаўся армянскай дыяспарай, але адчуў, што там няма куды расці, і стаў развіваць свой бізнес — быў уладальнікам бара «ДК» у Мінску, пазней — руін-бара «Ок 16».

— Перманентна я не быў апалітычны, але ў мяне гэта супадала з грамадскім абвастрэннем. Мне не падабалася тое, што адбывалася, але я нічога не прадпрымаў. Проста стараўся абстрагавацца ад гэтага ўсяго, не хадзіць на датэрміновыя выбары. Натуральна, я заўжды кепска ставіўся да Лукашэнкі. У 2010 годзе я пайшоў на Плошчу, але мы своечасова адтуль сышлі. Потым хадзіў на маўклівыя акцыі пратэсту. Затым быў выбух у метро, людзей агарнула дэпрэсія — і на гэтым усё скончылася. На пратэсты ў 2017 годзе я не хадзіў — у мяне было маленькае дзіця, мне было не да таго. А летась я ўбачыў, колькі людзей уздымаюць галаву, адчувалася, што выраслі іншыя людзі.

Гэта і падштурхнула Лявона далучыцца да штаба Віктара Бабарыкі, з якім ён быў крыху знаёмы. Тады галоўнай мэтай было — дажыць да выбараў, усе планы былі адкладзеныя на гэты час.

Але літаральна праз два дні пасля выбараў, 11 жніўня, Лявона затрымалі, і пра ўсе галоўныя падзеі гарачай восені 2020-га ён даведваўся, седзячы ў СІЗА на Валадарскага.

— У турме адчуванні мяняліся: ад вялікіх спадзяванняў — і да таго, што гэта ўсё вельмі доўга і складана, але па-іншаму не можа быць. А потым быў нейкі страх ад таго, што адбывалася, але ты ўсё роўна разумееш, што ўсё ідзе так, як павінна ісці. Калі я выйшаў, быў вельмі пазітыўна настроены і не разумеў, чаму многія навокал былі песімістычнымі, і цяпер я іх разумею, бо вельмі мала станоўчых навін у павестцы. Гэта дзіка стамляе яшчэ і таму, што вельмі шмат інфармацыі. У турме яе значна менш, і таму, напэўна, прасцей усё ўспрымаць, — разважае Лявон.

Пра тое, што адбывалася на волі, можна было здагадацца і па паводзінах супрацоўнікаў СІЗА. Калі пратэсты былі масавымі, узгадвае Лявон, яны ішлі на кантакт са зняволенымі, а калі ўсё пачало сціхаць, то і яны перасталі праяўляць інтарэс да вязняў.

— Там працуюць звычайныя людзі — не звяры, не садысты, яны проста робяць сваю працу, так у іх склалася жыццё. І калі было незразумела, чым гэта скончыцца, яны напэўна адчувалі нейкія эмоцыі і думалі, як будуць жыць у новых умовах. А потым, напрыканцы жніўня, у іх сталі праверяць тэлефоны, дапытваць на паліграфах — і яны сталі вельмі мала з намі размаўляць.

## Пасля «Усебеларускага сходу» пачаліся рэпрэсіі

Суразмоўца заўважыў паралелі паміж тым, што адбываецца на волі і ў турме. Цягам восені, гаворыць Лявон, стаўленне з боку адміністрацыі да зняволеных «Валадаркі» было досыць роўным. Усё змянілася пасля «Усебеларускага народнага сходу», калі людзей пачалі ставіць на прафілактычны ўлік і прымяняць рэпрэсіўныя меры. Чым большыя рэпрэсіі на волі — тым больш жорсткія парадкі ўводзяцца ў СІЗА.

— Многія спачатку думалі, што, па прыкладзе таго ж «Белага легіёна», папалохаюць і адпусцяць. Але, думаю, цяпер многія разумеюць, што ўсе амністыі і памілаванні завязаныя на адчуванні ўладаў, што яны ўсё ўзялі пад кантроль. Натуральна, цяпер у іх такога адчування няма, і ў бліжэйшы час наўрад ці з'явіцца, таму што крызіс занадта сур'ёзны.

Каб узяць сітуацыю пад кантроль, мяркуе Лявон, беларускім уладам давядзецца прыкласці шмат высілкаў і, магчыма, часткова ахвяраваць суверэнітэтам, пераўтварыўшы Беларусь у квазі-дзяржаву.

# вярнуцца

было холадна. У трубах замярзала вада, Аляксандра мусіла ўставаць начамі тапіць кацёл, каб дзеці не мерзлі. Да таго ж вельмі не хапала дапамогі па гаспадарцы: сям'я трымае 18 свіней, курэй, карову. Парасяты былі, але Аляксандры давялося іх прадаць, каб збіраць мужу перадачы.

Прашу Сашу распавесці, як яны з Іванам пазнаёміліся. Ён першы напісаў ёй у інтэрнэце ў чаце знаёмстваў, але дзяўчына яго адпрэчыла, бо ён быў маладышы за яе. Але праз два тыдні хлопец напісаў ёй зноў — і тады закруцілася.

— Мяне зачапіла яго простая камунікацыя, ён без пантоў, вясёлы, кампанейскі, — прызнаецца жонка.

А маці дадае:

— Ён вельмі добры, апошнюю майку аддасць.

## На першым спатканні плакалі абодва

Вонкава і не скажаш, што сям'я цяпер праходзіць праз цяжкія выпрабаванні. Аляксандра трымаецца стрымана і спакойна, жвавая Таццяна — пастаянна жартуе. І толькі цыгарэты, якія паляць адну за адной абедзве жанчыны, выдаюць іх перажыванні.

— Мы вельмі цяжка гэта перажылі. Я страціла 80% зроку на правым воку, 9 чэрвеня мне прызначаць аперацыю па замене крышталіка. Для нас гэта вельмі цяжка, вам не перадаць, як гэта даецца. Я ўсміхаюся, але ўнутры кошкі шкрабуць на душы, — прызнаецца Таццяна.

Але сярод змроку, у якім ужо больш за паўгода жыве сям'я, бываюць і светлыя моманты. З сакавіка Аляксандра змагла ўжо тройчы пабываць на спатканні з мужам. Гаворыць, на першым плакалі абодва. У красавіку сына нарэшце ўбачыла і маці.

— Ён трымаецца пазітыўна. На спатканні пажартавала: «Пайшлі дадому!» А ён кажа: «Мама, я зараз куртку скіну, вазьму і пойдзем», — успамінае Таццяна.

Падчас спаткання Аляксандра заўважыла, што ў мужа дрыжыць рука, калі ён трымае тэлефон.

— У яго рука нямее. Яму так сціснулі рукі кайданкамі пры затрыманні, што пашкодзілі нервовыя канчаткі, — гаворыць Аляксандра.

Сям'я вельмі перажывае за здароўе Івана, якім, калі ён выйдзе на волю, трэба будзе шчыльна заняцца. Два месяцы ў СІЗА ў яго быў высокі ціск і павышаны цукар у крыві. Але іх Ваня — моцны, ён усё вытрымае. У звязку з гэтым Таццяна распавядае гісторыю яго з'яўлення на свет. Хлопчык нарадзіўся здаровым, але роды прымаў доктар-практыкант, і калі ён рабіў немаўляці штучнае дыханне, у Ванечкі лопнула левае лёгкае. Да сёй пары ў яго дыягназ — левабаковы пнеўматоракс. На другі дзень жыцця яму рабілі аперацыю, больш за паўмесяца ён ляжаў у кювезе. Жанчыне нават прапаноўвалі адмовіцца ад дзіцяці, але яна не магла на гэта пайсці.

## Падарунак для сукамерніка

Вытрымліваць усе цяжкасці дапамагаюць дзеці і вера ў шчаслівую будучыню іх вялікай дружнай сям'і. І яшчэ — цвёрдае перакананне ў тым, што Іван не здзейсніў ніякага злачынства.

— На Новы год, — гаворыць Саша. — 31 снежня нам удалося перадаць яму перадачу, і потым мы атрымалі ліст з віншаваннямі і падзякамі ад яго і сукамернікаў за смачняшкі да навагодняга стала.

У СІЗА вельмі абмежаваныя спосабы баўлення часу. Неяк усёй камерай вязні складалі для Аляксандры крыжаванку, праўда, даслаць яе так і не ўдалося — забралі наглядчыкі. А яшчэ Іван змайстраваў падарунак да дня народзінаў сукамерніка, блогера Уладзіміра Цыгановіча.

— Я перадавала мужу шматразовы станок для галення. А ён узяў гэты станок, шмат туалетнай паперы, газеты і скруціў вялікі мяч — маўляў, пагуляць падчас шпацыру. І ён падарыў Уладзіміру гэты мяч з умовай, што той разгорне кожную паперчыну. Унутры аказаўся той самы станок. Шукаюць забавы, як могуць, — дзеліцца Аляксандра.

Таксама яна даведалася, як на Валадарцы адзначалі Новы год. Нейкі час Іван сядзеў з Аляксандрам Курдзюковым, сябрам застрэленага ў Брэсце Генадзя Шутава. Курдзюкоў напісаў жонцы, што ў 10 гадзін вечара ў камеры адключылі святло — не працавалі ні радыё, ні тэлевізар. А Іван напісаў, што яны прыгатавалі смачныя бутэрброды, духмяную гарбату і сустрэлі Новы год, а ў 23.34 пачулі, як у суседніх камерах усе сталі віншаваць адзін аднаго — нават не адразу зразумелі, чаму так рана.

## «Я хачу, каб аднавіўся парадак у краіне»

Суразмоўцы шчыра прызнаюцца, што не вераць у хуткія змены ў Беларусі. Хаця эканамічная сітуацыя імкліва пагаршаецца.

— У мяне ёсць прэтэнзіі да Лукашэнкі. Мой муж у мінулым месяцы атрымаў у калгасе такі заробак, што я два дні баялася зняць з карткі гэтую суму — ажно 250 рублёў! — іранізуе Таццяна.

Пачынаючы з новага года 19-га дня кожнага месяца сям'я Івана Багдзевіча з надзеяй чакае, што іх сыну, мужу, бацьку, брату зменяць меру стрымання, і ён вернецца дадому. Але штораз гэтая надзея не спраўджваецца. А апошнім часам істотна пагоршылася сітуацыя з перапіскай. Таму Аляксандры даводзіцца ездзіць у Мінск, каб дасылаць мужу тэлеграмы — яны даходзяць.

Неўзабаве стане вядомая дата суда над Іванам Багдзевічам, працэс адбудзецца ў Першамайскім судзе Мінска. Родныя стаміліся ад няпэўнасці і чакаюць, што нарэшце з'явіцца нейкая канкрэтыка — якім бы ні быў прысуд. У лістах палітвязень прасіў родных набыць яму турэмную робу, ён ужо падрыхтаваў сабе сумку з цыгарэтамі, кавай, бялізнай — на ўсялякі выпадак, каб быць гатовым да тэрміну.

Родныя Івана падтрымліваюць стасункі з сем'ямі іншых палітзняволеных, і гэта ім вельмі моцна дапамагае.

— Я хачу, каб аднавіўся парадак у краіне, каб бязвінныя людзі не сядзелі. Не адны мы пакутуем, — заключае Таццяна.

У дзень народзінаў блізкія зычаць Івану найхутчэйшага вызвалення і вяртання да сям'і і дзяцей, якія вельмі па ім сумуюць.

— Ён ведае, што яго дома чакаюць, яму ёсць куды вярнуцца.

Вы можаце павіншаваць Івана Багдзевіча, даслаўшы яму ліст, паштоўку ці грашовы перавод. Адрас: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Сям'і Івана таксама патрэбная дапамога. Неўзабаве аднаму з яго сыноў трэба будзе рабіць аперацыю на назе, і цяпер родныя шукаюць грошы. Калі ў вас ёсць жаданне падтрымаць сям'ю палітвязня, сродкі можна ахвяраваць на картку: 9112384105837672, тэрмін дзеяння 03/23.

# свабодны чалавек

— Я не думаю, што Расія дапучыцць да сябе нас — сатэліт, які мае голас у ААН. Гэта дадатковыя санкцыі, міжнародны ціск — навошта ёй гэта? У выпадку, калі Лукашэнка будзе працягваць утрымліваць уладу, а Расія будзе за гэта плаціць, і ўнутраны і міжнародны ціск не спраце, у нас будзе краіна з чыста намінальным суверэнітэтам. Я не бяруся рабіць прагнозы, але, калі людзей доўга трымаць у страху, самыя актыўныя будуць з'язджаць, гэта будзе моцна ўплываць на эканоміку, і ўсё гэта будзе вельмі дорага каштаваць як Беларусі, так і Расіі.

## «Натхняюць партызанскія акцыі»

Палітвязень зазначае, што пратэст унутры Беларусі па-ранейшаму вельмі важны.

— Гавораць, што пратэст сядзьмуўся, але ж мы гаворым толькі пра вулічны пратэст. Хацелася б мець нейкі план дзеянняў, які б аб'яднаў людзей. У прыватнасці, пратэст павінен быць бяспечным — калектыўныя забастоўкі, байкоты. Я думаю, можна прыдумаць дастаткова бяспечных дзеянняў, якія будуць працаваць супраць рэжыму.

Але ёсць тое, што і цяпер натхняе суразмоўцу. Гэта найперш тыя «партызанскія» акцыі, калі людзі працягваюць выказваць свой супраціў. А яшчэ — навіны, якія чарговы раз дэманструюць, што сістэма закопвае сама сябе.

— Эканоміка працуе па сваіх законах, якія нельга адмяніць, Лукашэнка і Пуцін не бессмяротныя, у нас вырастаюць новыя людзі, у нас ёсць інтэрнэт. Я не бачу, як гэта можна ўтрымаць, — прызнаецца Лявон.

## Пра досвед «Валадаркі» і кайф ад Беларусі

— Досвед у турме сведчыць, што ты здольны на большае і не ведаеш сваёй трываласці. У турме можна было чытаць і ні пра што асабліва не думаць. Былі моманты, калі я думаў: «Клас, я чытаю кніжку! Калі б я яе яшчэ прачытаў?»

Самаабмежаванні вельмі важныя для чалавека. Бо калі ў цябе заўжды ўсяго хапае і ты заўсёды ў камфорце, то перастаеш адчуваць жыццё і цаніць тое, што ў цябе ёсць.

Пасля вызвалення з «хіміі» Лявон планує ўнесці ў сваё жыццё хаця б гадзіну-дзве ў дзень без тэлефона і інтэрнэту. У чаканні разгляду апеляцыі ён ездзіў у вандроўкі па Беларусі, завітаў на славутую Шчучыншчыну і ў Ліду, вельмі ўразіўся палацам Святаполк-Чацвярцінскіх у Жалудку, пагасціў у Барысаве, паглядзеў касцёл у Зембіне, гуляў па лесе і бачыў сцежкі дзікоў.

Увогуле, «кайфануў ад Беларусі» Лявон яшчэ ў мінулым годзе, калі з пачаткам пандэміі каронавіруса межы закрыліся і многія пачалі ездзіць па краіне. Таксама шмат гарадоў і мястэчак давялося наведаць падчас перадвыбарчых мітынгаў разам са штабам.

— Я не думаў, што ў нас ёсць столькі класных месцаў. Канешне, факт, што многія з іх занядбаныя, але нават у такім стане на іх цікава глядзець. І гэта нават часам лепш, чым калі б яны былі адноўленыя па прынцыпе дзеючай улады — са шклопакетамі і гэтак далей.

## «Усё гэта ўжо было»

З побытавымі складанасцямі і абмежаваннямі ў зняволенні Лявону справіцца было даволі лёгка. Хоць не адразу атрымалася прывыкнуць да камеры на 18 месцаў, дзе на чалавека прыходзіцца 1,3 квадратныя метры.

— Першая рэакцыя: «Пачакайце, гэта ўсё месца, больш няма? А дзе тут хадзіць, як увогуле існаваць, ты ж там цэлы дзень сядзіш?». Я ўпэўнены, што гэта супрацьзаконна. У КПК напісана: ніхто не можа ўтрымлівацца ва ўмовах, якія нясуць пагрозу жыццю і здароўю. Як можна ўтрымліваць чалавека, дзе няма дзённага святла, дрэнная вентыляцыя, пастаянна паляць? Ты бачыш усё гэта на ўласныя вочы і разумееш, што гэта за краіна. І калі цяпер людзі кажуць, маўляў, можа быць, не варта было дзёргацца, нармальна жылі. Не нармальна! (Тут Лявон не стрымлівае эмоцый і лаецца. — НЧ) Так сядзелі і да гэтага, каталі і раней. Усё гэта ўжо было. І калі гэта нікога не тычылася, усё было нібы «ў парадку». Я і сам часам думаю: а можа, не трэба было, сядзеў бы ў сваім бары, зарабляў бы грошы, нікога б не чапаў, мяне б не чапалі. Але потым кажу сабе: «Чувак, заткніся». Проста так створаны чалавек, ён пачынае сумнявацца.

Палітвязень не згодны з тым, што беларуская рэвалюцыя прайграла. Грамадства прымусіла ўлады паказаць усім, што закон у краіне не працуе, і цяпер пакрысе рэжым сам сябе закопвае. Але пратэст варта захоўваць і надалей.

## «80% людзей можна выпусціць з турмы»

Расстанне з блізкімі стала для Лявона сапраўдным выпрабаваннем.

— Я вельмі сумаваў па сыне. Першы раз кальнула, калі на Акрэсціна раніцай прынеслі кашу. Гэта была пшонка, а Мікі, мой сын, называе яе «жоўтая каша». І я бяру гэтую кашу, і ўзгадваю сына... Але стараешся адкінуць гэтыя думкі, — узгадвае Лявон. — А яшчэ не ведаў, як пасля такога разрыву зменяцца адносіны ў сям'і. Гэта стала штуршком, каб яны трансфармаваліся. Для мяне гэта вельмі цікава.

Найлепшай падтрымкай для вязняў, гаворыць Лявон, былі лісты. Самымі чаканымі для яго былі лісты ад жонкі. А яшчэ вельмі ўразушвалі пасланні, у якіх аўтар знаходзіў нешта агульнае са зняволеным з, так бы мовіць, мінулага жыцця. Таксама заўжды было прыемна атрымаць перадачу.

— Прадуктамі заўжды можна было падзяліцца з сябрамі. Напрыклад, непалітычныя, хоць і жартам, але крыўдуюць, дый палітычныя, якія мала каму вядомыя, таксама, бо ім нічога не дасылаюць. Калі мне прыходзілі перадачы, то я, у асноўным, усё аддаваў на агульны стол.

А яшчэ вельмі ўмацоўвала адчуванне таго, што на волі нешта працягвае адбывацца.

— Калі я бачу, што людзі выходзяць, што яны не згодныя — значыць, мы не дарэмна сядзім.

За час зняволення Лявон зрабіў цікавае назіранне: на яго думку, адсоткаў 80 людзей можна выпусціць з турмы.

— Палітычных — проста выпусціць, астатніх адсоткаў 60 можна выпусціць пад падпіскі і са штрафамі, і толькі 20 адсоткаў, якія забілі ці скралі, можна пасадзіць. Напрыклад, аліментшчыкі: як можна пасадзіць чалавека, які не плаціць аліменты? Дык ён тады іх дакладна не заплаціць, — разважае суразмоўца.

Лявон Халатран верыць у змены ў Беларусі і ў тое, што сапраўдныя злачынцы неўзабаве адкажуць за свае ўчынкі. На пытанне, ці застанецца ён у Беларусі, калі тут нічога не зменіцца, Лявон адказвае:

— Я адчуваю адказнасць за тых, хто цяпер сядзіць, бо ў іх няма такой магчымасці, і калі я з'еду — гэта будзе эгаістычна. Але таксама я не магу ахвяраваць інтарэсамі сваёй сям'і. Пакуль я не бачу нават верагоднасці, каб аддаць у беларускую школу сваё дзіця, я не хачу, каб ён нейкім чынам судакрануўся з ідэалогіяй гэтай дзяржавы. Таму я думаю, што буду прымаць рашэнне, калі выйду. І я вельмі спадзяюся, што да таго моманту нешта зменіцца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. «Мінск» выратавалі

Аказваецца, вядомы рэстаран «Патсдам» у цэнтры беларускай сталіцы з'явіўся не проста так. Ён паўстаў напрыканцы 1970-х гадоў у рамках акцыі партнёрства з усходненямецкім горадам Патсдамам, дзе, адпаведна, адкрылася кропка «Мінск». Калі мінскі «Патсдам», дзякуючы добрай лакацыі, хаця і пад іншай назвай, усё ж захаваўся як рэстарацыя, то патсдамскі «Мінск» з часам аказаўся пад пагрозай знішчэння. Яшчэ ў 2017 годзе ўлады Патсдаму задумаліся над тым, каб знішчыць будынак і стварыць прастору вакол пабудаванага побач комплексу.

Аднак шмат каму з абарыгенаў такі план не спадабаўся. У тым ліку таму, што, як высвятляецца, у часы сацыялізму рэстаран «Мінск» быў цэнтрам грамадскага жыцця, з якім шмат у каго звязана багата асабістых гісторый.

У выніку, дзякуючы нізавым пратэстам, дзейнасці фракцыі партыі «Левыя» і спонсарам, рэстаран «Мінск», быццам, атрымалася выратаваць. Як піша газета Neue Deutschland, дасягнутая дамова, што «Мінск» будзе ператвораны ў мастацкі цэнтр, які адкрыюць у наступным годзе.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ААЭ. Алкаголікі, будзьце салідарнымі!

Паколькі эпідэмія працягваецца, улады Мюнхена завочна скасавалі правядзенне славутага піўнога фестывалю Oktobefest.

У прынцыпе, фестываль таксама давялося адмяніць і ў мінулым годзе праз той жа вірус. Аднак гэтым разам знайшліся тыя, хто вырашыў скарыстацца праблемамі баварцаў і перахапіць папулярны брэнд. Так, улады горада Дубаі — сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў — вырашылі запрасіць аматараў піва на свой варыянт Oktobefest. Мяркуецца, што ён будзе называцца «Oktoberfest in Dubai», адкрыецца 7 кастрычніка і будзе працягвацца два тыдні. За гэты час плануецца завабіць у Дубаі да 120 тысяч чалавек.

Натуральна, навіна не спадабалася баварцам, якія выступілі супраць арабскага Oktobefest. Сярод іншага яны заклікаюць сабатаваць піўное свята ў Дубаі праз салідарнасць з мясцовымі алкаголікамі, якім за спажыванне таго ж піва пагражае смяротнае пакаранне. Таму, як адзначае адзін з дэпутатаў, праводзіць Oktobefest у Дубаі — тое ж самае, што арганізаваць кангрэс аматараў дэмакратыі ў Пхеньяне.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Палітыка ад вядзьмарак

Сітуацыя на кыргызска-таджыкскай мяжы практычна нікога не пакінула абыякавым. Сваімі прагнозамі на гэты конт падзялілася і папулярная мясцовая празорліўца Святлана Тайганбаева.

«Народ у нас не хоча выпраўляцца. Але пакуль не позна, трэба пачаць змяняцца. Сённяшняя ўлада ў нейкай ступені пачынае паўтараць памылкі ранейшых», — заявіла яна мясцовай прэсе. Таксама Святлана выдала прагноз на будучыню: «Калі здарыцца чарговая рэвалюцыя, то Кыргызстана ўжо не будзе. Чацвёртай рэвалюцыі мы ўжо не перажывем. Кітай, Казахстан, Узбекістан і Таджыкістан узмоцняць ціск на межах і свае тэрытарыяльныя прэтэнзіі».

Па словах работніцы эзатэрычнага фронту, часу на выратаванне краіны няшмат. Калі вядучыя палітыкі не дасягнуты кансенсусу падчас святога месяца Рамадан, «негатыўныя наступствы» надыдуць няўхільна.

У прынцыпе, да папярэджанняў Тайганбаевай можна ставіцца з іроніяй, аднак нельга забываць, што ЗША пачынаюць вывад войскаў з суседняга Афганістану, дзе да ўлады вяртаюцца радыкалы-талібы. Таму сапраўды паўстаюць высокія рызыкі для дзяржаўнасці Кыргызстана.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### БОСНІЯ. Толькі б не было вайны

Баснійская прэса абсалютна сур'ёзна лічыць, што Баснійская дзяржава як федэрацыя сербаў, баснійцаў-мусульман і харватаў дажывае апошнія дні. Калі верыць некаторым СМІ, вялікія дзяржавы збіраюцца перамаляваць межы на Балканах, у выніку якіх Боснія як мінімум у цяперашнім выглядзе перастане існаваць.

Падставай для такіх мінорных заяў стаў дакумент славенскага МЗС, які нядаўна апрылюднілі. Славенскія дыпламаты пішуць пра існуючы на Захадзе план далучэння сербскіх этнічных тэрыторый Босніі да Сербіі, а харвацкіх — да Харватыі. Гэты крок, мяркуючы, выглядае непазбежным, паколькі бясконцая канфрантацыя паміж згаданымі этнічнымі групоўкамі рана ці позна можа прывесці да канфлікту.

Ці сапраўды такі праект існуе? Калі гэта так, то, хутчэй за ўсё, яго рэалізацыя можа пачацца ўлетку, калі Славенія атрымае статус старшыні ў ЕС.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# За сталом з тыранамі

Алег НОВІКАЎ

**У Францыі пабачыла свет кніга «За сталом з тыранамі» Хрысціяна Рудо, якая расказвае пра гастранамічныя прыхільнасці дыктатараў і ўплыў харчавання на іх учынкі.**



Фота www.twitter.com

Ключавы тэзіс кнігі: талерка дыктатара — не што іншае, як люстэрка таталітарызму, яна дэманструе іх прагу абсалютнай улады, а таксама і іх трывогі, якія часта сыходзяць каранямі ў дзяцінства. Ежа распавядае гісторыю чалавека з усіх бакоў: яго жаданні, страхі, фізіялагічныя недахопы, сацыяльнае становішча, класавыя звычкі і гэтак далей.

У якасці доказу аўтар прапануе нам зазірнуць у меню дыктатараў. Ад мудрагелістага вегетарыянства Гітлера і «рэвалюцыйнай» ежы Маа Цзэдуна да блюдаў Чаўшэску, ад імперскіх банкетаў Бакасы да п'яных абедаў Садама Хусейна.

Пачаць можна з Маа, які баяўся, што ўлада здольная ператварыць аскетычных рэвалюцыянераў у «тоўстых і пузатых шляхетных людзей». Таму была прыдумана сістэма рондаляў. Чым вышэйшы ранг чыноўніка, тым меншы ў яго павінен быў быць рондаль. Праўда, тут быў адзін фокус. У высокага чыноўніка быў маленькі рондаль, але свой Вялікі рондаль выдаваўся на калектыў.

Маа таксама выкарыстоўваў тэму ежы як піяр. У разгар голаду ён заявіў, што вырашыў стаць хударлявым ды часова адмовіўся мяса. «Калі ўсе галадаюць, я не магу есці мяса», — сказаў Старшыня. Народ адразу ж ахапіла паніка. З правінцыі Маа дасылалі нават мяса тыгра і аленя, мовлячы яго есці мяса. Марныя намаганні! «Аддайце мяса ў сталовыя, дзе кожны змока атрымаць асалоду ад яго», — казаў правадыр — і выклікаў захапленне ў простых кітайцаў.

А вось афрыканскі Жан Бакаса бачыў у сваіх банкетах спосаб уразіць лідараў іншых, больш заможных краін Чорнага кантыненту. Таму на гастраномію ён грошай не шкадаваў. У 1977 годзе Бакаса даў банкет, зроблены ў гонар французскай гастраноміі. Да ўсялякіх вустрыц і фуа-гра падавалася найлепшае віно Эльзаса, Бургундыі і Бардо. Усяго для адной вячэры з Францыі было дастаўлена 60 тысяч бутэлек віна і шампанскага.

Адносіны Гітлера да ежы выкладзеныя ў «Майн Кампф», дзе ён малюе сябе аскетам, які гатовы да любых цяжкасцяў, каб выканаць нейкую місію. Недаяданне, ад якога ён, калі быў маладым мастаком, пакутаваў у Вене, разглядаецца як тэст. На базе адчування ўласнай велічы фарміруецца і адмоўнае стаўленне да алкаголю.

Захапленне вегетарыянствам завяршае партрэт чалавека, які зрабіў аскетызм правілам жыцця. Была яшчэ адна дэталь. «Яго (Гітлера) веданне ўсяго на свеце дазваляла яму з упэўненасцю сцвярджаць, што працягласць жыцця людзей павялічылася б да 140 гадоў, калі б яны ўстрымліваліся ад ужывання мяса», — піша Хрысціян Рудо. Ён таксама робіць выснову, што «стаўленне да ежы ў Гітлера вызначалася жаданнем максімальна наблізіцца да эстэтычных канонаў, усталяваных нацысцкай ідэалогіяй, сакральнае цела фюрэра больш не належала яму цалкам».

Цікавае месца займала ежа ў жыцці пары Чаўшэску, якія вялі досыць шыкоўны лад жыцця. За свае дваццаць пяць гадоў ва ўладзе пара збірала раскошныя вілы і аўтамабілі і не мела згрызот сумлення. У свядомасці Нікалаэ і Алены вілы і аўтамабілі былі сціплай кампенсацыяй за іх працу на карысць румынскага народа. Аднак пры гэтым яны былі камуністамі і памяталі, што трэба падтрымліваць сувязь з народам. Таму вялікае значэнне ў іх меню надавалася традыцыйным румынскім стравам: курыца, галава цяляці з пятрушкай, салата з ялавічыны з маянэзам, рыбная чорба… За стол Алена і Нікалаэ таксама любілі садзіцца ў народных строях. Каб, напэўна, быць яшчэ бліжэй да народа.

**Гаспадар патрабаваў, каб усе госці забаўляліся без мітусні і пратаколаў. Але абдымкі і паляпванні па спіне не павінны былі ўводзіць у зман. У любы момант Хусейн мог узняць палец — і госця адводзілі ў падвал**

Арыгінальна падыходзіў да кулінарыі Садам Хусейн. Ён зыходзіў з тэзы, што сытыя не робяць рэвалюцый. Таму падчас інспекцый па краіне любіў нечакана ўваходзіць у дамы простых іракцаў і адкрываць іх лядоўні. Калі лядоўня не вызначалася багаццем прадуктаў, мясцовага адміністратара чакаў суровы «ператрах». Зрэшты, гэты прыём чыноўнікі хутка вывучылі, і напярэдадні з'яўлення дыктатара мясцовыя адміністратары патрабавалі ад людзей, каб у халадзільніках дамоў быў абавязковы прадуктовы набор: фінікі, баранавае сцягно, вярблюджае малако…

Дарэчы, у многіх такі прадуктовы набор быў да інтэрвенцыі Іраку ў Кувейт. Пасля гэтага краіна трапіла пад санкцыі, давялося багацце ў лядоўнях імітаваць. Праўда, рацыён Хусейна таксама змяніўся. Дыктатар разумеў, што шматлікія іракцы на яго злыя. Таму перш, чым ежа ішла да яго на стол, яна правяралася на наяўнасць атруты. Узоры ежы захоўваліся на працягу некалькіх дзён у халадзільніках палаца на выпадак атручвання прэзідэнта і крымінальнага расследавання.

Наогул, Хусейн быў фанатам міфа пра вячэры ў Сталіна. Таму за сталом у Садама панавала тая ж атмасфера. Гаспадар патрабаваў, каб усе госці забаўляліся без мітусні і пратаколаў. Але абдымкі і паляпванні па спіне не павінны былі ўводзіць у зман. У любы момант Хусейн мог узняць палец — і госця адводзілі ў падвал. Прычым, госці гэта ведалі, і дыктатар ведаў, што пра магчымы арышт ведаюць яго госці. Вось такая «руская рулетка».

Застаецца дадаць, што апошні раз Хусейн сеў за стол 29 снежня 2006 года напярэдадні смяротнага пакарання. Пра што думаў ён у час апошняй вячэры? Напэўна, кніга пра думкі дыктатараў напярэдадні пакарання можа стаць тэмай наступнага даследавання.

# Праз незалежнасць да Алімпіяды

Алег НОВІКАЎ

**Шатландскія нацыяналісты выйгралі выбары 6 траўня, каб адразу анансаваць новы плебісцыт пра незалежнасць рэгіёну. У выпадку яго поспеху споўніцца мара шматлікіх шатландцаў — нарэшце атрымаць сваю алімпійскую каманду.**


Фота www.bbc.com

У пачатку, як вядома, было слова. А на пачатку ідэі пра шатландскую алімпійскую зборную — прыкол ці жарт. У ліпені 2005 года Лондан быў абвешчаны гаспадаром Алімпійскіх гульняў 2012 года. Адно шатландскае жоўтае выданне своеасаблівa адрэагавала на навіну — вырашыла замовіць жартоўнае апытанне сярод мясцовых жыхароў. Ім прапанавалі адказаць: «Ці хацелі б вы, каб Шатландыя адправіла ўласную алімпійскую каманду ў Лондан–2012?».

Вынікі зандажу грамадскай думкі сталі для шмат каго сюрпрызам. Аж 78% рэспандэнтаў на пастаўленае пытанне адказалі станоўча. Гэта, у сваю чаргу, выклікала грамадскія дэбаты наконт магчымасці стварэння сваёй каманды. Хутка дыскусія дасягнула сценаў шатландскага парламента, дзе былі праведзеныя адпаведныя слуханні. У фінальным выступе Алекс Салманд, тагачасны рэгіянальны прэм'ер ад урадавай Шатландскай партыі нацыяналістаў (SNP), заявіў: прысутнасць у Лондане каманды Шатландыі — «файная ідэя». І нават паабяцаў ёй фінансавую дапамогу з бюджэту.

Як ні дзіўна, асноўны пратэст супраць ідэі прагучаў з боку... мясцовых спартсменаў. Яны былі не супраць ідэі шатландскай каманды, але лічылі, што арганізаваць падрыхтоўку спартсменаў за такі кароткі перыяд немагчыма. Не кажучы пра тое, што шатландскім спартсменам на час трэніровак няма чым было кампенсаваць страту брытанскай спартыўнай інфраструктуры, аб'екты якой, як правіла, знаходзяцца па-за межамі Шатландыі.

Так ці інакш, ідэя шатландскай зборнай выклікала скандал. У Лондане Салманда з яго алімпійскімі планамі назвалі «хворым». Такая рэакцыя была абумоўленая і тагачаснымі дэбатамі пра хуткі рэферэндум аб шатландскай незалежнасці. Адпраўка нацыянальнай зборнай пад шатландскім сцягам на Гульні мела б вялікі сімвалізм і палітычнае значэнне.

У выніку ад намеру мець прадстаўніцтва шатландцаў на алімпіядзе ў Лондане давялося адмовіцца. Аднак сама ідэя не знікла. Дадатковым стымулам стаў вынік шатландскіх алімпійцаў. Яны прывезлі з Лондану 13 алімпійскіх медалёў (у тым ліку сем залатых), хаця шатландцы складаюць толькі дванаццатую частку насельніцтва Вялікабрытаніі. Не дзіўна, што хутка паўстаў Шатландскі нацыянальны алімпійскі камітэт, які пачаў шукаць юрыдычныя магчымасці ўдзелу ў Гульнях каманды, якая не прадстаўляе суверэнную дзяржаву.

У прынцыпе, такіх прававых выключэнняў заўжды хапала. Сваіх алімпійцаў на Гульні дасылалі на алімпіяды Пуэрта-Рыка, Ганконг і Палесціна. Не кажучы пра тое, што Шатландыя мае ўласную футбольную каманду, якая ўдзельнічае ў міжнародных спартыўных спаборніцтвах, у тым ліку ў футбольным чэмпіянаце свету. Тое ж тычыцца і тутэйшай каманды па рэгбі. Нарэшце, Шатландыя мае сваю зборную на гульнях Брытанскай Садружнасці.

Аднак Міжнародны алімпійскі камітэт у дадзеным выпадку адмовіўся ісці насустрач, спасылаючыся на параграф алімпійскай Хартыі рэдакцыі 1995 года. Пункт 31.1 не дазваляе прызнаваць несуверэнныя нацыі. Каб лічыцца «суверэннай», нацыя павінна

**Трыумф шатландскіх нацыяналістаў на выбарах 6 траўня дае зялёнае святло для арганізацыі новага ўсеагульнага апытання наконт незалежнасці. Лондан, праўда, пакуль згоды не дае, што абяцае доўгі канфлікт**

быць «незалежнай дзяржавай, якая прызнаная міжнароднай супольнасцю». Алімпійская хартыя таксама патрабуе, каб у краіне-кандыдаце было як мінімум пяць нацыянальных спартыўных федэрацый, прызнаных міжнароднымі федэрацыямі алімпійскага спорту.

Менавіта на гэтым кірунку і засяродзілі сваю дзейнасць аматары шатландскай алімпійскай каманды. Дастаткова хутка акрамя футбольнай федэрацыі паўсталі і прапісаліся ў міжнародных структурах федэрацыі па такіх відах спорту, як бадмінтон, бокс, кёрлінг, хакей на траве.

Аднак ключавой праблемай заставалася тэма незалежнасці, шанс атрымаць якую край меў на плебісцыце ў верасні 2014 года. Напярэдадні міністр спорту Шатландыі запэўніў, што ў выпадку перамогі незалежнікаў шатландская алімпійская зборная будзе ўдзельнікам Алімпіяды 2016-га ў Рыа. Такая пастаноўка пытання вельмі напужала англічан. Атрымлівалася, што зімовая Сочынская алімпіяда 2014-га магла быць апошняй у гісторыі брытанскай алімпійскай зборнай. Аднак у выніку большасць на рэферэндуме падтрымала тое, каб Шатландыя заставалася суб'ектам Аб'яднанага Каралеўства.

І вось у гэтым доўгім серыяле — новая серыя. Трыумф шатландскіх нацыяналістаў на выбарах 6 траўня дае зялёнае святло для арганізацыі новага ўсеагульнага апытання наконт незалежнасці. Лондан, праўда, пакуль згоды не дае, што абяцае доўгі канфлікт. Колькі ён працягнецца, невядома, але спорт ужо стаў адной з пляцовак барацьбы. Напрыклад, брытанскі ўрад папярэдзіў шатландскіх спартсменаў, што ў выпадку поспеху рэферэндуму ім могуць адмовіць у пашпарце Брытаніі.

Такая мера будзе азначаць, што тыя спартоўцы не змогуць прыняць удзел у турнірах, на якіх былі заяўленыя як чальцы брытанскай зборнай. У сваю чаргу, спартовыя функцыянеры ў Эдынбургу спасылаюцца на вопыт краін, якія паўсталі на рэштках Югаславіі і СССР. Тыя дзяржавы, у тым ліку Беларусь, дастаткова хутка, амаль на працягу аднаго года, афармілі прапіску ў міжнародным алімпійскім руху.

Праўда, на першай алімпіядзе пасля краху СССР — у Барселоне — спартсменам былых савецкіх рэспублік давялося гуляць у адной камандзе. Магчыма, у хуткім часе мы пабачым падобны фармат і для зборнай Вялікабрытаніі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксей Кудрын



Кіраўнік Падліковай палаты Расійскай Федэрацыі, апошні з магікан ліберальнай партыі, якая кіравала краінай у 1990-я гады, нечакана з'явіўся на старонках заходніх СМІ ў статусе магчымага прэзідэнта Расіі пасля прыходу да ўлады дэмакратаў.

Заява досыць дзіўная, паколькі адкрытая падтрымка Кудрына з боку Захаду азначае стопрацэнтную ўвагу да яго актыўнасці з боку спецслужбаў. У гэтым плане не выключаю, што падобныя публікацыі маглі фінансавацца адной з вежаў Крамля, якой Кудрын перабег дарогу. Апошні, выкарыстоўваючы пасаду кіраўніка Падліковай палаты, на пляцоўцы Савета Федэрацыі шмат разоў заяўляў пра сістэмныя праблемы, распавядаў пра шматмільярдныя крадзяжы ў розных ведамствах, кіраўнікі якіх і вырашылі яго скампраметаваць.

Але ёсць і іншыя цікавыя тэорыі. Само па сябе з'яўленне прозвішча Кудрына ў заходніх медыя можна лічыць прыкметай змены стратэгіі ў дачыненні да антыпуцінскай апазіцыі. Падаецца, цяпер стаўка робіцца не на радыкалаў накшталт Навальнага, а на фракцыю ўнутры сістэмы. У гэтым плане ўспамінаюць, што ключавую ролю ў дэмантажы савецкай сістэмы адыгралі не дысідэнты, такія, як Сахараў ці Салжаніцын, а кіраўнікі КПСС — Гарбачоў і Ельцын.

З іншага боку, пра Кудрына маглі ўзгадаць, паколькі больш лібералаў у расійскай эліце няма. Ён застаецца апошнім прадстаўніком лібералаў, што ўключаны ў контур унутранай палітыкі і які мае доступ да цэнтра прыняцця рашэнняў. Так ці інакш, пра Кудрына пачалі казаць як пра значную фігуру ў палітычным працэсе. Разглядаецца нават сцэнар, калі ў выніку шэрагу форс-мажорных для ўлады фактараў Кудрыну дазволяць мець сваю фракцыю ў Думе, і нават, магчыма, прапануюць пасаду прэм'ера.

### Кім Чэн Ын



Працўнікі паўночнакарэйскага дыктатара, офіс якіх знаходзяцца ў Паўднёвай Карэі, паведамляюць, што «Бліскучая Зорка», як называе правадыра афіцыёз, падпісаў загад аб смяротным пакаранні дырыжора галоўнага хору краіны. Загад, быццам, ужо выкананы.

У прынцыпе, на першы погляд, навіна на сенсацыю не цягне, бо ў КНДР практыка смяротных пакаранняў заўжды існавала. Але калі пазнаёміцца з дэталямі, справа выглядае незвычайна. Высвятляецца, што падставай для прысуду стаў не нейкі палітычны ўчынак, а крытычная ацэнка мастацкіх якасцяў аднаго з фрагментаў шоу з нагоды дня нараджэння дыктатара 16 лютага гэтага года. Гэтым фрагментам быў спектакль «Ценявая магія», жанр якога ўяўляе сабой спалучэнне тэатра ценяў і фокусаў. Як паведамляецца, прысутны на шоу Кім Чэн Ын выказаў сваё задавальненне пабачаным і высока ацаніў імпрэзу. А вось дырыжору хору яна не спадабалася. Пры гэтым ён меў глупства падзяліцца сваімі думкамі з людзьмі з атачэння Кіма. У той жа вечар дырыжор быў арыштаваны і праз некалькі дзён расстраляны, прычым на вачах хору.

Паўднёвакарэйскі рэпарцёр паведамляе, што ў «злачынцу» стрэлілі аж 90 разоў. Пакуль інфармацыя пра расстрэл афіцыйна не пацверджана.

### Аліўе Фор



Першы сакратар Французскай Партыі сацыялістаў (PSF) стаў закладнікам даты, якой літаральна ўчора ўсе французскія сацыялісты ганарыліся. 40 гадоў таму — 10 траўня 1981-га — кандыдат PSF Франсуа Мітэран выйграў прэзідэнцкія выбары.

Перамога, якую французы сустракалі як сапраўднае свята, стала пачаткам амбіцыйных сацыяльных рэформаў. Некаторыя з іх (нацыяналізацыя банкаў і буйных кампаній) праваліліся, а некаторыя (пяць тыдняў адпачынку, выхад на пенсію ў 60 гадоў, культурная лібералізацыя) атрымаліся. Аднак увогуле 10 траўня 1981-га заўжды заставалася сімвалам патэнцыялу сацыялістаў.

Але сёння гэта дата выклікае хіба што жарты. Сапраўды, да гадавіны партыя Мітэрана падышла ў глыбокім крызісе. Палітычныя сіла, якая яшчэ чатыры гады таму кантралявала Елісейскі палац, цяпер нават не мае ў сваіх шэрагах жадаючых балатавацца на пасаду прэзідэнта ў наступным годзе. Рэйтынг PSF складае не больш за 6 працэнтаў. «40 гадоў крызісу» — такімі загалоўкамі каментуе ў гэтым годзе прэса гадавіну перамогі ў 1981-м.

Але бяда не прыходзіць адна. Напярэдадні юбілею дзяржаўная камісія ўстанавіла, што Францыя датычная да генацыду ў Руандзе. Гэта здарылася ў 1994-м, калі Мітэран яшчэ знаходзіўся пры ўладзе. Калі справа атрымае рэзананс, то ў сацыялістаў, магчыма, не будзе і тых шасці працэнтаў падтрымкі.

# Беларуская брама ў «імперыю Сталіна»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Абмежаванні пры перасячэнні беларускай мяжы, паглыблены дагляд нешматлікіх пасажыраў у аэрапорце, прымусілі мяне ўзгадаць падзеі 1930-х гадоў, калі беларусы жылі на «мяжы цывілізацый». Сёння Коласава — гэта малапрыкметная чыгуначная станцыя на шляху з Мінска ў Брэст. А ў міжваеннае дваццацігоддзе пра яе ведалі не толькі ў Еўропе, але і ў іншых частках свету.**

## Замест Брэста — Ваўкавыск

У 1930-я гады на савецка-польскай мяжы ў Беларусі існавала чатыры чыгуначныя калідоры: Загацце — Фарынава; Аляхновічы — Радашковічы; Мікашэвічы — Жыткавічы; Коласава — Негарэлае. Аднак толькі апошні выкарыстоўваўся для пасажырскіх перавозак. У 1920–1930 гады праз станцыю Коласава курсіраваў знакаміты «Манчжурскі экспрэс». Цікава, што польскі фрагмент чыгуначнага шляху ад Варшавы гэты цягнік праходзіў не праз звыклыя цяпер Седльцы — Брэст — Баранавічы, а праз Беласток — Ваўкавыск — Баранавічы.

На самой лініі мяжы з БССР знаходзіўся вялікі будынак стражніцы КАП. Польская застава будавалася грунтоўна: падмурак быў зроблены з жалезабетону, сцены — з цэглы. Каля будынка быў плот з калючага дроту. Побач праходзіла мяжа, акрэсленая польскімі і савецкімі памежнымі знакамі-слупамі. Далей была савецкая тэрыторыя: драўляныя хаты, аднапавярховы, яшчэ царскі, будынак чыгуначнай станцыі, якую ў 1930-х гадах займалі савецкія памежнікі.

На савецкім баку быў яшчэ адзін вельмі цікавы архітэктурны аб'ект: вялікая ўязная брама, на фасадзе якой быў герб БССР, а таксама — вялікі надпіс: «Прывітанне працоўным Захаду». З іншага боку брамы быў надпіс: «Камунізм змяце ўсе межы».

Паміж Стоўбцамі і Негарэлым праходзіў «савецкі» чыгуначны шлях. Часцей за ўсё цягнік, які ішоў з Польшчы, спыняўся ў Стоўбцах, дзе адбывалася праверка польскіх мытнікаў. Будынак польскай мытні знаходзіўся побач з вакзалам.

Вось як працэдуру праверкі апісваў беларускі прафесар-біёлаг Міхаіл Ганчарык, які перасякаў мяжу ў 1927 годзе: «Купіўшы білет, я рушыў на вакзал і заняў месца ў вагоне цягніка. Маёй спадарожніцай аказалася студэнтка, дачка работніка нашага гандлёвага прадстаўніцтва. Яна вучылася ў Берліне і ехала на пабыўку да сваякоў у Маскву. Гэта аказалася мне вельмі карысным, бо ў мяне былі жаночыя рэчы, мае падарункі Стэфе, якія я не меў права везці без пошліны. Яна была ў такім жа становішчы, бо везла мужчынскія рэчы. Перад мытным аглядам у Стоўбцах мы часова памяняліся гэтымі рэчамі і без усякай затрымкі прайшлі агляд, пасля чаго рэчы вярнуліся да гаспадароў. Толькі з роварам выйшла недарэчнасць. Палякі ў Стоўбцах абвясцілі, што ў іх цяпер ідзе мытная вайна з СССР, і яны не прапускаюць туды машыны. На гэтай падставе яны затрымалі ровар. У Негарэлым я пра гэта заявіў нашым мытнікам. Тыдні праз два па прыездзе ў Горкі я атрымаў паведамленне Мінскай мытні, што мой ровар знаходзіцца ў іх, і я магу яго атрымаць. У хуткім часе ровар быў у мяне».

## Распрануць да кашулі

Пасля польскага мытнага дагляду цягнік ехаў па «польскім» чыгуначным шляху ў Негарэлае. Там пасажыры выходзілі з рэчамі і пераходзілі ў мытную залу на савецкай станцыі, дзе пачынаўся дагляд.

Вось як гэтая працэдура апісвалася ў польскай газеце «Рэха» ў 1933 годзе: «На працягу апошніх дзён на савецка-польскай мяжы ў Негарэлым савецкія чыноўнікі ўзмацнілі мытны дагляд. Тых, хто падарожнічае, распранаюць да кашулі. Адной-чы праз такі дагляд прайшла жонка аднаго з вышэйшых супрацоўнікаў замежнай амбасады».

У 1930-я гады замежныя дыпламаты часта траплялі ў пасткі савецкіх мытнікаў. То японскага консула «перахопяць», які спрабуе ў чамаданах дзвюх савецкіх грамадзянак вывезці, а то ў польскага чыноўніка з консульства з Манчжурыі забяруць службовую дакументацыю. Праўда, важных палітычных асоб стараліся не чапаць.

Вось як у кнізе «Успаміны савецкага дыпламата 1925–1945 гг.» савецка-польскую мяжу ў Стоўбцах–Коласава–Негарэлым апісвае амбасадар СССР у Вялікабрытаніі Іван Майскі: «У сакавіку 1935 года ў Маскве з'явіўся Энтані Ідэн, член урада магутнай Вялікабрытаніі! Гэта было падзеяй вялікага палітычнага значэння і выклікала шматлікія каментарыі ў прэсе. Паводле рашэння савецкага ўрада я суправаджаў Ідэна ў яго паездцы з Берліна ў Маскву. Цягнік з Захаду прыходзіў у Стоўбцы, і тут (з прычыны розніцы ў шырыні чыгуначнай каляіны Польшчы і СССР) пасажырам даводзілася пераходзіць на другі бок вакзала, дзе ўжо чакаў савецкі цягнік. Я ішоў побач з Ідэнам. Калі мы падышлі да савецкага цягніка, Ідэн раптам спыніўся і са здзіўленнем усклікнуў: «Нішто сабе!.. Адразу атрымліваеш яскравае ўяўленне пра гіганцкія памеры вашай краіны!». Пры гэтым Ідэн паказаў на шыльдачкі, якія віселі на вагонах. Там пазначалася: «Стоўбцы-Манчжурыя». Гэта быў далёкаўсходні экспрэс, які ішоў прамым рэйсам праз Маскву з заходняй мяжы СССР да ўсходняй».




**Польскі жаўнер ля савецкай браму ў Коласава, 1934 г.**

Варта адзначыць, што рух vip-персон праз памежны калідор у Коласава адбываўся на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя, і пра гэта актыўна пісалі польскія, савецкія і іншыя выданні. Напрыклад, у траўні 1930 года газета «Dziennik Wileński» паведамляла чытачам пра выезд замежных бізнесменаў у сталіцу БССР Мінск: «Праз Стоўбцы на тэрыторыю савецкай Беларусі накіравалася група англійскіх і нямецкіх прамыслоўцаў, якія прымуць удзел у Мінску ў шэрагу перамоў па пытанні эксплуатацыі лясоў у Мінскай акрузе. Як удалося даведацца, савецкі ўрад збіраецца прадаць 20 тысяч гектараў старога лесу, які знаходзіцца на польскім памежжы ў раёнах Дзісны, Вілейкі, Радашковіч і Івянца».

На жаль, дакладна не вядома, чым скончыліся перамовы «капіталістаў» з прадстаўнікамі «першай краіны працоўных і сялян», але вырубка памежных лясоў у пачатку 1930-х гадоў з савецкага боку сапраўды адбывалася. Акрамя таго, што савецкі бок імкнуўся зарабіць грошы, важным было таксама ліквідаваць магчымыя «калідоры» для праходу на савецкі бок кантрабандыстаў і дыверсантаў.

## Адлюстраванне эпохі

Пасля савецкага мытнага кантролю пасажыры польскага цягніку перасаджваліся ў савецкі «Манчжурскі экспрэс» і ехалі ў Мінск ці далей, а пусты цягнік «PKP» вяртаўся ў Стоўбцы. У сваю чаргу, савецкі цягнік, які ішоў з боку сталіцы БССР на Захад, спыняўся на станцыі Негарэлае. Пасажыры выходзілі на кантроль, пасля якога яны вярталіся ў той жа савецкі цягнік і ехалі ў Стоўбцы, дзе яны зноў выходзілі і накіроўваліся ўжо на польскі мытны кантроль. На Варшаўскім баку вакзала пасажыры з СССР сядалі на польскі цягнік, а пусты савецкі вяртаўся.

Адным з тых, хто неаднаразова праязджаў у Стоўбцы, быў Уладзімір Маякоўскі. Вось як ён апісваў свае ўражанні ў 1927 годзе: «Стоўбцы. Памежны пункт. Шыкоўны будынак. Белы, як быццам бы з золата. Як адрозніваецца гэтая станцыя ад нашых брудных станцыек. Думаю, калі так пойдзе далей, Польшча сапраўды разбагацее. [...] У цягніку з Варшавы ў Негарэлае на дзесяць вагонаў (не змяншаю) ехала чалавек сем. Побач з нашым вагонам цягнуўся адзін цалкам пусты мяккі, адзін цалкам пусты жорсткі і побач жорсткі вагон усяго з адным пасажырам. Праўда, гэта ўжо пры пад'ездзе да польска-савецкай дзяржаўнай мяжы. Верагодна, гэта рэдкасць, але нават для рэдкасці пасажыраў усё ж мала».

Менавіта тут, у Стоўбцах, нарадзіўся і знакаміты «Верш пра савецкі пашпарт».

## На шляху ў Кітай

Колькі ж цягнікоў ішло ў дзень праз мяжу? Першы — з Парыжа праз Берлін — ад'язджаў з Варшавы ў бок Стоўбцаў у 9:50. Там былі толькі сядзячыя месцы. На станцыю Негарэлае ён прыбываў у 20:08, а ў 21:37 з Негарэлага адпраўляўся савецкі «Манджурскі экспрэс», на Маскву ў ім былі толькі спальныя месцы. У панядзелак і чацвер цягнік ішоў да Уладзівастоку, у аўторак і пятніцу — да Хабараўску, у нядзелю — да Іркуцку, у сераду і суботу — да Манчжурыі. У апошнім выпадку цягнік ішоў да памежнай станцыі «Адпор» (да 1929 года станцыя «Забайкальск», але была перайменавана пасля баявых дзеянняў на Кітайска-Усходняй чыгунцы. — І.М.) на мяжы з Манчжурыяй.

Вось якія ўражанні ад даваеннай польска-савецкай мяжы ў Коласава засталіся ў беларускага каталіцкага святара Язэпа Германовіча, які па дарозе ў Кітай у 1932 годзе перасякаў кардон: «Каля апоўдня мы прыехалі ў Баранавічы і перасялі ў міжнародны цягнік, што едзе з Парыжа праз Германію і Польшчу да Стоўбцаў на мяжы з савецкай Беларуссю. У вагоне мы знайшлі толькі дзвюх асоб, якія таксама ехалі праз Расію. Гэта былі кітайцы. Адзін з іх быў старэйшы, гадоў за сорак, другі — юнак гадоў 19-ці. Старэйшы быў апекуном і дзядзькам малодшага. Абодва ехалі з Англіі. Але старэйшы быў нават у Амерыцы, дзе вёў інтарэсы нейкай гандлёвай фірмы, што набывала футра дарагіх жывёл. А малодшы вучыўся ў Англіі. [...] "Здзеся ховоліл, ховоліл, а там молсі", — перасцерагае нас Ю-Фун-Сін, калі сталі пад'язджаць да мяжы. Відаць было, што ён нас пужае, але і сам крыху неспакойны. Тым часам цягнік апусцеў. На цэлы вагон засталіся мы двое і двое кітайцаў, да якіх з іншага вагону далучыўся трэці іх таварыш — студэнт, гадоў 25-ці. Акрамя нас былі тут нейкія арыгінальныя тыпы з "белымі тварамі", якія з апушчанымі вачамі праходзілі праз наш вагон. Мяне нешта цюкнула ў сэрца, калі сустрэўся з адным з іх у праходзе. Нарэшце цягнік спыніўся. Мы ў вокнах нічога асаблівага не бачым, аднак сэрца б'е, чутно пульс у скронях — мусіць, зараз нешта будзе?

— Ваш пашпарт?

Што ж гэта — ужо савецкія кантралёры? А дзе мяжа? Прыглядаюся вельмі пільна, але мы так яе і не ўбачылі. Прайшлі "Рубікон" — і не ведаем, дзе ён. Ды няма часу разважаць: пашпарты, візы. Кантралёр і пара чыноўнікаў заглядаюць кожнаму ў пашпарт і ў вочы: паперы забіраюць, а ў душы пакідаюць трывалы адбітак савецкага кантролю. Кожны чыноўнік, як відаць, абрэзаны рэвалюцыйным сярпом і абстуканы молатам, выцягнуты ў струнку, быццам бы праглынуў доўгую палку, падстрыжаны пад агульную пралетарскую моду. Едзем далей. Раптам чуем марш. Гэта вітанне. Аркестр на ганку прыгожага дома грае вітальныя мелодыі. Цягнік павольна праходзіць велізарную трыумфальную браму. Сустрэчны надпіс абвяшчае: "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" (насамрэч надпіс быў іншы — "Прывітанне працоўным Захаду!" — І. М.). На станцыі Негарэлае шмат моладзі. [...] Гэта ўсё прыгатавана для сваіх. Бо тыя "індывідуумы", што на тым баку трымалі вочы ў падлогу, тут прасвятлелі, стаялі ў вокнах і з жывой усмешкай віталі людзей на вуліцы. Тут ролі змяніліся. Яны пачуваліся "ў сваёй талерцы", а мы апусцілі вочы».

Акрамя гэтага праз Коласава–Негарэлае ішоў «Паўночны экспрэс» з Кале праз Парыж, які з'язджаў з Варшавы ў 16:45 (па панядзелках, серадах і пятніцах) і прыбываў у Негарэлае ў 1:22. Там былі толькі спальныя вагоны. Цягнік да Масквы адпраўляўся ў 2:38 у аўторак, чацвер і суботу.

Роля памежнага чыгуначнага пераезду Коласава–Негарэлае стала змяншацца пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР. На станцыі «Негарэлае» да нападу Германіі на СССР працягвала знаходзіцца савецкае памежнае КПП, аднак мытнікі адтуль пераехалі ў Брэст. І менавіта гэты горад з восені 1939-га па лета 1941-га (дый пасля Другой сусветнай вайны) стаў адыгрываць ролю галоўнай заходняй брамы ў Савецкі Саюз.

**Фота з архіва аўтара**

# У Салігорску пабілі БАТЭ, у Рэчыцы прыбралі БЧБ-трэнера

Сяргей КАЙКО

**Пасярод сонечнага траўня ў Беларусі ўсталявалася добрае надвор'е і прыязная стабільнасць. Надвор'ю радуюцца звычайныя безадказныя беларусы — стабільнасць пільна кантралююць камуфляжныя патрулі ў мікрараёнах, каб барані бог дзесьці не прамільгнула што-небудзь абуральна бела-чырвонае.**


Дэмба Дарба: адбойны малаток футбольнага «Шахцёра». Фота: прэс-служба ФК «Шахцёр»


БЧБ-трэнер Вячаслаў Ляўчук: сышоў з арбіты «Спадарожніка». Фота: «Трыбуна»

## Людзі на футболе

Беларускі футбол дзяржаўнаму канону пахвальна адпавядае. Кожныя выходныя тут перамагае «Шахцёр» і паступова сыходзіць ад пелетону ў гордае адзіночнае плаванне. Гэта галоўная стабільнасць першынства краіны, якую заўважылі нават тыя, хто спортам цікавіцца выключна факультатыўна.

Такіх перамог у салігорцаў набралася ўжо восем, і статыстыкі аператыўна падбілі лічбы. Гісторыя сведчыць катэгарычна: пасля такога ўдалага старту вясенні лідар заўсёды ператвараўся ў восеньскага чэмпіёна. Са статыстыкай не надта паспрачаешся, таму дасылаем у калійны горад заўчасныя віншаванні.

Яны дарэчныя яшчэ і таму, што ў нядзелю «Шахцёр» нарэшце сышоўся з галоўным супернікам — барысаўскім БАТЭ — і даволі ўпэўнена пляснуў яго з «сухім» лікам. Салігорск — горад пратэставы, але не злы. Яшчэ ў мінулым жніўні тысячы гараджан на чале з суровымі шахцёрамі, абураныя афіцыйнымі вынікамі галасавання, прыпіралі да сценкі гендырэктара «Беларуськалія» Галаватага — і той меў бледны выгляд і не ведаў куды дзецца. А ў святочны вечар 9 траўня плюс-мінус тыя ж людзі лагодна прыйшлі на футбол шчыльнымі радамі, каб падтрымаць каманду, якой той жа Галаваты і кіруе.

Не, пратэставыя настроі нікуды не падзеліся, інакш мясцовыя ўлады не працягвалі б ганіць гарняцкі стачкам, а яго мужных лідараў перасталі б кідаць за краты. Інакш ключавы замежны контрагент калійнага камбіната — нарвежская «Yara» — дагэтуль не чухаў бы рэпу ў думках аб скасаванні супрацоўніцтва з беларусамі праз парушэнні правоў чалавека. Пратэставыя настроі сышлі ўглыб — і не толькі ў Салігорску — і наверсе гэта выдатна разумеюць, таму ўсё раскручваюць і раскручваюць махавік рэпрэсій.

Але ж людзі завіталі на галоўны матч першага круга. Не ў той, вядома, колькасці, як раней — у «мірны час» на трыбунах яўна б сабраўся аншлаг, — але праявілі цікавасць і нават сімпатыю да свайго клуба. Магчыма, таму, што ведаюць: нягледзячы на ўвесь свой канфармізм, ніхто з салігорскіх футбалістаў (у адрозненне ад некаторых барысаўчан) так і не падпісаў ліст праўладных спартсменаў. Хаця ціск на каманду, кажуць, быў, але тая яшчэ падчас міжсезоння поўным складам ясна дала зразумець, што пэцкацца ў гэтай гісторыі не будзе. Імаверна, гэтага хапіла некалькім тысячам салігорцаў, каб прымірыцца са сваімі гульцамі і прабавіць вечар 9 траўня на стадыёне «Будаўнік».

## Ад Дарба дабра не шукаюць

Што да самой гульні з БАТЭ, то колькі-небудзь захапляльнай яна не атрымалася. Абедзве каманды больш дбалі пра вынік, дзеля якога ахвяравалі якасцю. Так бывае ў футболе наогул, а ў беларускім футболе — асабліва. Вялікія матчы рэдка дораць відовішча, перамога ў іх спісвае ўсё.

Перамогі магло не быць — зыходзячы з малюнка гульні, яе адэкватным коштам выглядала б нічыя 0:0. Аднак у «Шахцёра» сёлета ёсць адмысловы страйкер — Клінт Іствуд беларускага чэмпіянату, які страляе без промаху. Хлопца завуць Дэмба Дарба, яму 22 гады і ён прыехаў у Беларусь з афрыканскай Гамбіі — транзітам праз чэмпіянат Македоніі. Паводле чутак, салігорскі клуб заплаціў за гэты трансфер астранамічныя грошы — 700 тысяч еўра — то-бок суму, якую наўрад ці мае на ўвесь сезон умоўная «Смаргонь» ці ўмоўны «Спадарожнік».

Зрэшты, пакуль выглядае, што агромністыя ўкладанні цемнаскуры нападаючы апраўдвае: у васьмі турах ён забіў ажно дзевяць галоў і зарабіў тры асістэнцкія балы. Калі так пойдзе і надалей, то ў «Шахцёры» легіянер не затрымаецца, а на перапродажы ў Расію ці Заходнюю Еўропу салігорцы змогуць добра зарабіць. І заадно — крыху палепшыць рэпутацыю, бо ранейшыя аптовыя закупы гульцоў-замежнікаў часцей за ўсё былі пустым марнаваннем грошай і ўзбуджалі сярод заўзятараў вядомыя падазрэнні.

Забіў Дарба і ў нядзелю — той самы адзіны мяч, які прынёс яго камандзе перамогу. Трапны стрэл з-за межаў штрафной пляцоўкі наўпрост у «дзявятку» стаў самым яскравым эпізодам матчу, адказу на гэта БАТЭ так і не знайшоў.

## Адстаўка, але не там

Тыдзень таму медыя анансавалі трэнерскую адстаўку ў «Нёмане», дзе аб намеры сысці з пасады заявіў Ігар Кавалевіч. Слова, канешне, не верабей, але і не дакументальнае сведчанне — да справы яго не далучыш. Што, уласна, і выявіла гродзенская сітуацыя. Ну, сказаў гродзенскі трэнер пра звальненне і сказаў — пасля размоваў з кіраўніцтвам абстаноўка ўтаймавалася, і чалавек працягвае працаваць. А тут якраз нёманцы і перамаглі нарэшце, нахілілі на выездзе маркотную «Смаргонь». То так, мусіць, таму і быць — надалей неяк сцерпіцца-злюбіцца.

Але ж без сыходу галоўнага трэнера ў вышэйшай лізе не абышлося. Прычым сюжэт склаўся

**Нягледзячы на ўвесь свой канфармізм, ніхто з салігорскіх футбалістаў так і не падпісаў ліст праўладных спартсменаў. Хаця ціск на каманду, кажуць, быў, але тая дала зразумець, што пэцкацца ў гэтай гісторыі не будзе**

надта незвычайны, нібыта ў духу сённяшняга часу. Бо быў у «Спадарожніка» трэнер Вячаслаў Ляўчук — і раптам знік. І ніхто нічога не тлумачыць (прынамсі на той момант, калі пісаўся гэты тэкст).

Зразумела, што рэчыцкі клуб гуляе кепска, боўтаючыся на апошнім месцы ў табліцы. Аднак тое цалкам прадказальна: мы яшчэ колькі тураў таму прагназавалі гаротную долю навічка вышэйшай лігі, бо рэсурсу на большае ў яго папросту няма. Зрэшты, нават калі ў кіраўніцтва саспела крытычная незадаволенасць настаўнікам, то што перашкаджае вырашыць пытанне цывілізавана? Звальняй аднаго трэнера, уладкоўвай іншага — звычайная справа ў сучасным жыцці.

Але толькі не ў жыцці «Спадарожніка». Аб адстаўцы Ляўчука клуб маўчыць, яго заўзятары не ведаюць, што думаць, а каманду тым часам ужо ва ўсю моц трэніруе іншы спецыяліст — расіянін Віктар Кумыкоў. І, вядома, таксама прайграе — гэтым разам брэсцкаму «Руху».

Чаму так, застаецца толькі здагадвацца, бо ніхто нічога не каментуе. Хутчэй за ўсё, працэс заканчэння супрацоўніцтва запушчаны, але кропка яшчэ не пастаўлена. Перад гэтым бакі заўсёды вырашаюць фінансавыя пытанні, то, можа, таму пакуль і набралі ў рот вады. Ну а тое, што ўсё атрымліваецца настолькі нязграбна, то беларускі футбол і не такімі цудамі здзіўляў.

На зыход Вячаслава Ляўчука варта хіба што згадаць тое, што ён — перакананы прыхільнік перамен. Мінулым летам 49-гадовы трэнер браў удзел у пратэстах — па месцы свайго жыхарства ў Гомелі. Прыхопліваў з сабой, што характэрна, бел-чырвона-белы сцяг, з якім фатаграфаваўся, нічога і нікога не баючыся. Выказваўся пра неабходнасць новых, сумленных, выбараў.

— Пайшоў на мітынг, каб зразумець: ці толькі я галасаваў за Святлану Ціханоўскую? — распавядаў Вячаслаў Ляўчук у інтэрв'ю парталу «Трыбуна». — І, ведаеце, яшчэ ніколі не бачыў такой колькасці людзей на вуліцах Гомеля. Я не вялікі арыфметык, але лічыць умею. На мой погляд, у нядзелю на вуліцах горада сабралася больш за 20 тысяч чалавек. Людзі ішлі і па Савецкай, і па Пралетарскай, і па праспекце Леніна, многія стаялі ў парку. Усе выдатна самаарганізаваліся, ніхто не пераходзіў дарогу на чырвонае святло. Я ўбачыў на вуліцах шмат людзей рознага ўзросту з шарыкамі і нацыянальнымі сімваламі. Адчувалася атмасфера дабра і свята.

Хай маленькае і прыватнае, але сведчанне таго, што не такія ўжо яны і «хатаскрайнікі» — айчынныя футбалісты.

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 8. 7.05.** СМАРГОНЬ — НЁМАН (Гродна) — 0:2 (1100; Зубовіч, 54, Джыгера, 84. На 42-й хвіліне Зубовіч (Нёман) не рэалізаваў пенальці (штанга)). ГОМЕЛЬ — СЛУЦК — 4:1 (2500; Гомза, 6, А.Васільеў, 46, Пабудзей, 65, А.Салавей, 77 — Сасін, 39, з пенальці).

**8.05.** РУХ (Брэст) — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 2:0 (315; Садоўскі, 15, Пячэнін, 32). МІНСК — ВІЦЕБСК — 3:3 (510; Шрамчанка, 35, Лопес, 67, Зіновіч, 80 — Жуліа Сезар, 23, 94+, Сантас, 34). СЛАВІЯ (Мазыр) — ДЫНАМА (Брэст) — 1:1 (1550; Мельнікаў, 93+ — Беленькі, 57).

**9.05.** ШАХЦЁР (Салігорск) — БАТЭ (Барысаў) — 1:0 (3150; Дарба, 20). ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 1:1 (175; Юдчыц, 22 — Оя, 20). ІСЛАЧ (Мінскі раён) — ДЫНАМА (Мінск) — 1:3 (370; У.Марозаў, 5 — Мбенг, 9, Ложкін, 37, Давыскіба, 95+).

**ТУР 9. 14.05.** Спадарожнік — Славія, Дынама Мн — Смаргонь. **15.05.** Нёман — Шахцёр, Тарпеда-БелАЗ — Іслач, БАТЭ — Рух. **16.05.** Слуцк — Мінск, Віцебск — Энергетык-БДУ, Дынама Бр — Гомель.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 8 | 8 | 0 | 0 | 21–4 | 24 |
| 2. | Дынама Мн. | 8 | 5 | 2 | 1 | 14–5 | 17 |
| 3. | БАТЭ | 8 | 5 | 2 | 1 | 15–7 | 17 |
| 4. | Гомель | 8 | 4 | 3 | 1 | 14–7 | 15 |
| 5. | Рух | 8 | 4 | 3 | 1 | 14–8 | 15 |
| 6. | Дынама Бр. | 8 | 3 | 5 | 0 | 10–3 | 14 |
| 7. | Іслач | 8 | 4 | 0 | 4 | 12–14 | 12 |
| 8. | Тарпеда-БелАЗ | 8 | 3 | 2 | 3 | 6–10 | 11 |
| 9. | Мінск | 8 | 2 | 3 | 3 | 12–13 | 9 |
| 10. | Віцебск | 8 | 1 | 6 | 1 | 5–4 | 9 |
| 11. | Энергетык-БДУ | 8 | 1 | 3 | 4 | 7–9 | 6 |
| 12. | Нёман | 8 | 1 | 3 | 4 | 5–9 | 6 |
| 13. | Слуцк | 8 | 1 | 3 | 4 | 6–13 | 6 |
| 14. | Славія | 8 | 1 | 2 | 5 | 7–13 | 5 |
| 15. | Смаргонь | 8 | 1 | 1 | 6 | 3–17 | 4 |
| 16. | Спадарожнік | 8 | 1 | 0 | 7 | 3–18 | 3 |

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у траўні.**

## 15 траўня

**Сяргей Сяргеевіч Альшэўскі,** фінансавы дырэктар «Прэс-клуба», сустрэне сваё 37-годдзе. Ён быў затрыманы 22 снежня ў офісе «Прэс-клуб».



У яго доме прайшоўператрус, забралі ўсе ноўтбукі, макбук жонкі Сяргея і ўсе яе банкаўскія карты. Сяргея даставілі на допыт у ДФР. Спачатку змясцілі ў ізалятар на Акрэсціна, а затым перавялі ў СІЗА-1, дзе ён цяпер і знаходзіцца.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 16 траўня

44 гады споўніцца **Уладзіміру Дудараву,** каардынатару ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі па Магілёўскай



вобласці. У 2018 годзе быў прызначаны намеснікам старшыні Магілёўскага гарвыканкаму, курыраваў пытанні будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Раніцай 11 чэрвеня 2020 года ў галаўны офіс Белгазпрамбанка прыйшлі супрацоўнікі ДФР.Ператрус таксама праходзіў у людзей, звязаных з Бабарыкам. Быў затрыманы і Уладзімір Дудараў.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

53 гады споўніцца **Вадзіму Валер'евічу Хіжнякову** — жыхару Гродна, асуджанаму на 2,5 гады пазбаўлення волі па арт. 364 КК («Гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі») падчас акцыі пратэсту 27 верасня).



Да суда знаходзіўся пад вартай. На судзе ён віну не прызнаў.

Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

## 17 траўня

Дзень народзінаў у **Андрэя Сяргеевіча Чапюка** — валанцёра Праваабарончага цэнтру «Вясна». Быў затрыманы 2 кастрычніка ў Мінску супрацоўнікамі ГУБАЗіК.

9 кастрычніка Андрэю было прад'яўленае абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК. 28 студзеня супраць яго, а таксама супраць палітвязняў Акіхіра Гаеўскага-Ханады, Аляксандра Францкевіча і яшчэ некалькіх чалавек



распачата крымінальная справа па ч. 2 арт. 285 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

22 гады споўніцца **Вадзіму Сяргеевічу Гурману.** Яго абвінавацілі па двух артыкулах КК: ч. 1 арт. 342 і арт. 364.

Згодна з абвінавачваннем, 9 жніўня Вадзім Гурман выкрыкваў лозунгі, правакаваў грамадзян на актыўныя дзеянні, а таксама пагражаў гвалтам міліцыянерам Смаленскаму,



Лазару, Радзько, Сіняўскаму, Нехвядовічу, Цярэньцьеву.

На судзе Гурман прызнаў віну па артыкуле 342, але не па 364-м. Ён распавёў, што пры затрыманні АМАПам, якое адбылося праз два дні, 11 жніўня, яго і іншых білі і залілі газам твар. Затым моцнае збіццё працягнулася ў двары РУУС. Па словах Гурмана, яму пагражалі згвалтаваннем і спрабавалі зняць штаны, аднак усё ж спыніліся па камандзе кагосьці з кіраўніцтва РУУС.

8 лютага ў судзе Маладзечанскага раёна суддзя Вольга Дубовік прысудзіла Вадзіму Гурману тры гады і шэсць месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

31 год споўніцца жыхару Салігорскага раёна **Руслану Уладзіміравічу Акостку.** Ён 15 лістапада здолеў прайсці амаль праз увесь горад з бел-чырвона-белым



сцягам. Гэта ён зрабіў у памяць забітага Рамана Бандарэнкі. Руслана затрымалі супрацоўнікі міліцыі і змясцілі ў ізалятар.

16 лістапада суд Салігорскага раёна пастанавіў пакараць яго за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве на 15 сутак. Аднак на волю Руслан так і не выйшаў. У дачыненні да былога дэсантніка распачалі крымінальную справу за супрацію міліцыянту, які ахоўвае грамадскі парадак (арт. 363 КК РБ). Са слоў сваякоў, на Руслана 30 лістапада распачалі крымінальную справу за супраціў падчас затрымання супрацоўнікам РАУС і нанясенне цялесных пашкоджанняў, якія не панесклі за сабой цяжкіх наступстваў і шкоды здароўю супрацоўніку РАУС.

Суд праходзіў фактычна ў закрытым рэжыме. Руслан віну не прызнаў.

Суддзя Алеся Серадзенка агучыла прысуд: тры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і матэрыяльная кампенсацыя ў памеры 2 000 рублёў.

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба.

## 20 траўня

30-годдзе сустрэне за кратамі **Аляксей Генадзьевіч Мельнікаў.**



Ён быў затрыманы 4 снежня ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску. Яму было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК.

У судзе Заводскага раёна Мінска 16 сакавіка вынесены прысуд: 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

23 гады споўніцца **Уладзіміру Ігаравічу Рубашэўскаму.** Першы раз быў затрыманы



10 жніўня, праз некалькі дзён яго адпусцілі. Пры затрыманні ён быў моцна збіты.

Затым затрыманы 29 жніўня, быў у ІЧУ, затым пераведзены ў СІЗА. Дома прайшоў ператрус. Уладзіміру прад'явілі абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

29 гадоў споўніцца адміністратару тэлеграм-канала «Беларусь головного мозга», на які падпісана больш за 172 тысячы карыстальнікаў, **Ігару Аляксандравічу Лосіку.**

25 чэрвеня ў доме ў Баранавічах, дзе жыве Ігар Лосік з сям'ёй, прайшоў вобшук, пасля якога яго



затрымалі. Увечары таго ж дня стала вядома, што ў дачыненні да Ігара Лосіка завялі крымінальную справу па арт. 342 КК.

15 снежня Ігару Лосіку прад'явілі новае абвінавачванне па п. 13 ч. 2 арт. 293 КК. У знак пратэсту Ігар Лосік абвясціў бестэрміновую галадоўку. Жонка Ігара, Дар'я Лосік у знак салідарнасці з мужам таксама абвясціла галадоўку. У сваіх малюнках з СІЗА Ігар Лосік паказвае помнікі архітэктуры Беларусі, сюжэт з фільма «Аліса ў краіне цудаў», дзікіх жывёл і прызнаецца ў каханні сваёй жонцы і паўтарагадовай дачцэ.

— Я вельмі сумую па ім, але буду трымацца да канца і ва ўсім яго падтрымліваць! — распавядае жонка Дар'я. — Са свайго боку я буду працягваць рабіць для яго ўсё магчымае і немагчымае.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

37-годдзе сустрэне за кратамі **Павел Мікалаевіч Спірын.** Ён быў затрыманы 4 верасня



2020 года, вызвалены праз тры дні, затым зноў затрыманы 9 верасня пасля выпуску новага відэароліка. На апошніх прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі блогер заявіў пра свой намер стаць кандыдатам у прэзідэнты, аднак Цэнтральная выбарчая камісія адмовіла яго ініцыятыўнай групе ў рэгістрацыі. Пры гэтым Павел Спірын дапусціў рэзкія выказванні ў дачыненні да А. Лукашэнкі ў сваім выступе на пасяджэнні ЦВК, якое транслявалася ў прамым эфіры, што магло стаць адной з прычын пераследу. Ён стаў даверанай асобай кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай. Раней у 2019 годзе адзін з яго фільмаў «Грань» быў унесены ў рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў, але справа за гэты фільм была распачатая толькі пасля актыўнага ўдзелу Паўла ў передвыбарнай кампаніі 2020 года.

Спірыну было выстаўлена абвінавачванне паводле часткі 1 артыкула 130 КК.

Суддзя Мінскага гарадскога суда Дзіяна Кучук 5 лютага вынесла прысуд у дачыненні да блогера Паўла Спірына — чатыры гады і шэсць месяцаў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Сваё 21-годдзе сустрэне **Яўген Сяргеевіч Пекач.** Ён быў затрыманы 14 студзеня 2021 года па падазрэнні ва ўдзеле ў



масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК). Неўзабаве яму было прад'яўленае абвінавачванне па гэтым артыкуле.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіны». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №792

Падпісана да друку 13.05.2021. 8.00. Наклад 6000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.